
Каля Ялоўкі →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Говоры по-своёму! →8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 43 (2945) Год LVII | Беласток, 21 кастрычніка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Фотазапісы Юркі Асенніка

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Запіскі гэта, вядома, у адным значэнні занатоўкі, а ў іншым лісткі ў царкве за здравіе або ўпакой душы. Але „Запіскі” гэта таксама загалоўкі фотаальбома і выставы, якая сігналізуе яго выданне ў беластоцкай кавярні „Labalbal”. Аўтарам здымкаў з’яўляецца вядомы перш за ўсё як вакаліст рок-групы „0-85” Юры Асеннік. Вернісаж яго прац (13 кастрычніка) адбыўся ў рамках трэцяга літаратурнага фестывалю „Zebrane”, які інаўгуравала дэбата, прысвечаная м.інш. шматкультурнасці ў падляшскай сталіцы пад лозунгам „Беласток як творчы матэрыял”.**


Юрка Асеннік

Суініцыятарам „Zebranego” і выставы Юркі Асенніка ў „Labalbalu”, не проста кавярні, а месцы літаратурных і калялітаратурных сустрэч, быў яго ўласнік Дам’ян Кудзіноўскі. У час вернісажу тлумачыў нам, адкуль задума, каб у рамках гэтай літаратурнай імпрэзы адрэкамендаваць фотавыстаўку:

— Калі я пабачыў Юркавы працы, дык падумаў, што падыходзяць яны да літаратуры. Гэта ж нататнік. Здымкі гэта метафара слова, калі слова можа мець сваю метафару. Гэта таксама запіс моманту, так як слова. Гэтая гульня слоў „запіскі” таксама вельмі файная і паказвае на тое, што называем шматкультурнасцю.

Ва ўступе да альбома ў дзвесце старонак, выдадзенага ўнікальным тыражом самім аўтарам у ледзь трыццаці асобніках, прызнаны ў Польшчы пісьменнік родам са Случанкі Гарадоцкай гміны Ігнат Карповіч напісаў: „Занатоўкі Сенькі дотычат людзі, будынкуў, окон, двэры, продміетуў, пэйзажы, муралі, незвычайных бліскуў сьвіэтла, одным словом — того, што кругом нас штодэнь”. І далей апісаў свет прадстаўлены аўтарам: „(...) то сьвіэт цалком бэз профілю, другімі словамі то сьвіэт en face. Тут я прыгадаў, што ў ортодоксыйнуй усходнюй іконографіі кепські героі былі показаны з профілю, а добры en face. Значыт, колі трыматіся такога тлумачэня, сьвіет Сенькі то добры сьвіет”. Яшчэ далей: „(...) усе фотографіі, нэважнэ чы показуют сьвіэт жывы чы ніэ, стараюцьце опісаті его ў такі самы спосуб (...)”. Кожны фотазапіс гэта вобраз свету, наколькі згодзімся на гэта, што кожны здымак — цалкавіты свет. „Цэнтр сьвіета одін на каждум здымкові особны й інакшы”.

На выставе апынулася ледзь некалькі здымкаў з альбома (14 х 14 см), быццам заахвочваючы да таго, каб зазірнуць у кніжнае выданне. Кожны са здымкаў завешаны ў блоках, з якога картачкі-здымкі можна сабе вырваць. Альбом аўтар прысвяціў свайму бацьку. Сам Юры Асеннік у час адкрыцця выставы з „Нівай” не хацеў размаўляць; вядомы ён сваімі неахвотнымі адносінамі да медыяў. Ветліва толькі кіўнуў: „Відаць жа ж, якія ёсць здымкі”.

Затое ахвотна распавядалі аб ягоных працах знаёмыя. Рыгор Дамброўскі, фатограф і фотарэпарцёр, галоўны рэдактар „Газеты ў Беластоку” (лакальны дадатак да „Выбарчай газеты”), а заадно рэдактар здымкаў, якія апынуліся ў альбоме, сказаў нам:

— Тое, што Юркавы здымкі фенаменальныя, можна было ўжо прыкмеціць у галерэі „Stotrzynaście”, якая калісьці функцыянавала ва Універсітэце ў Беластоку. Гэтыя здымкі сведчаць перш за ўсё аб тым, што фатографу непатрэбны фотаапарат. Кніжка і фотавыстава ўзніклі без прымянення фотаапаратра ў традыцыйным значэнні, а пры дапамозе мабільніка (komórki) . Гэта сведчыць аб тым, што да фатаграфавання аўтар прымяняе перш за ўсё сваё мазгавое шэрае рэчыва (szare komórki). Усё, што павінна быць, ёсць у гэтых здымках. Закрыццё фатаграфіі ў квадрат пры кадраванні і кампанаванні няпростая справа. Юрка спецыфічны клімат здабывае між іншым дзеяннямі даступнымі для фатаграфіі. Юрка знакаміта рухаецца ў плыні нейкага эксгібіцыянізму ў напластаванні перадачы зместу, характэрнага фатаграфіям канца мінулага стагоддзя і пачатку гэтага. Гэта прадстаўлянне прыватнага жыцця і найглыбейшых гісторый, кранаючых яго самога.

Вядомы тэледакументаліст Мікола Ваўранюк, перакладчык на беларускую гаворку ўступнага слова ў фотаальбом:

— Юрка, прысвячаючы альбом свайму бацьку, хацеў, каб першы ўступ быў на мове яго дзяцінства ў вёсцы Парцава. Маю ўвесь час у галаве словы Ігната Карповіча, што на кожнай фатаграфіі ёсць цэнтр свету і прытым уласны Юркаў цэнтр. Юрка ў чарговы раз даказаў, што гэта не фотаапарат робіць здымак, а чалавек. Мае ён штосьці супольнае з маім улюбёным чэшскім бардам Ярамірам Нагавіцай, які да рангу паэзіі падняў звычайныя рэчы. Звычайны дом становіцца тут самастойнай істотай, прыгожай. Юрка прыкмячае дэталі, якіх я, тысячу раз праходзіўшы побач, не прыкмеціў бы.

Фатограф Павал Грэсь:

— Даўно я не бачыў такой фатаграфіі: моцна асабістай, радзіннай. Не відаць тут ніякай манернасці, якая так часта прытрапляецца ў мастацтве, літаратуры. Можна падумаць, што такія здымкі можа сабе кожны рабіць, бо кожны ж мае мабільнік. Аднак тут відаць Юркаву шчырасць, без напругі, якраз без нейкай манернасці.

У час дэбаты інаўгуруючай (10 кастрычніка) чатырохдзённы фестываль „Zebrane”, сарганізаваный супольна з тэатральным фестывалем „Białystuk”, на малой сцэне Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі разважалі над тым, ці Беласток прыцягвае артыстаў звонку, ці фактычна гэта могільнік талентаў, ці можа быць ён творчай інспірацыяй. Магдалена Гадлеўская з галерэі „Арсенал”, старшыня Згуртавання культурнай адукацыі „Widok”:

— Шмат мастакоў, якія адусюль з’ехалі нават больш за дзесятак гадоў, надалей адносіцца да таго, што было тут.

Войцех Шэляхоўскі, тэатральны рэжысёр і выкладчык беластоцкага лялечнага філіяла Тэатральнай акадэміі:

— Нікуды не трэба ўцякаць. У эпоху інтэрнэту няважна, ці пішуцца фантастычныя рэчы, напрыклад, пасярод Кнышынскай пушчы.

Голас з залы:

— Беласток пакуль не прываблівае, ды зрабіў агромны культурны скок. Адлегласць паміж Беластокам і Захадам скарацілася. Гэта ўжо не правінцыя, да якой далёка.

Войцех Шэляхоўскі:

— Расце мода на Беласток. Не хапае, аднак, пазітыўнага снабізму.

Магдалена Гадлеўская:

— З маіх назіранняў вынікае, што ёсць агромная прорва ў зацікаўленні культурай паміж ліцэістамі а малазацікаўленымі студэнтамі, таксама і культуразнаўства.

Войцех Шэляхоўскі:

— Франты, якія праходзілі праз Беласток, кастрыравалі яго гісторыю. Ён забыты горад з кастрыраванай гарадской тоеснасцю. Не хапае платформы ўзаемнага пранікання людзей культуры і мастацтва.

Вяліся развагі, ці беластоцкая шматкультурнасць уздзейнічае на мастацтва і ці нацыянальныя меншасці Беластока не зачыняюцца або іх не зачыняюць ва ўласных „гета”, ці іхнія культурныя дзеянні рэалізуюцца і адрасуюцца выключна ўласным асяроддзям.

Магдалена Гадлеўская:

— Я не разумею, што значыць шматкультурнасць. Гэтае паняцце ў Беластоку змяняецца, праз прабываючых тут чачэнцаў ці арабскіх студэнтаў. У разуменні шматкультурнасці не трэба спасылацца толькі на даваенны Беласток ці крэсавасць, хаця не ведаю, што гэтае вызначэнне сёння мела б значыць.

Кшыштаф Гедройц, паэт, эсэіст, выкладчык Тэатральнай акадэміі ў Беластоку:

— Мультыкультуралізм як пытанне не дае напрамку гэтаму гораду. Асаблівай яго прыкметай з’яўляецца яго лакальная мова, гэты выразны дыялект.

Войцех Шэляхоўскі:

— Геты былі, ёсць і будуць.





# Беларуская наіўнасць

Мы, беларусы, наіўна думалі, што гэтым разам прадстаўнік нашай нацыі атрымае першую ў беларускай гісторыі Нобелеўскую прэмію. Шмат вартых гэтай узнагароды было беларусаў. Прыкладам, Ларыса Геніюш была не горшай і літаратаркай, і дысідэнткай чым іншыя змагары за праўду ў СССР, якіх прэмія не абмінула. Ды вось не звярталі на беларусаў увагі неяк. Нават многія сцвярджалі, што беларусу ніколі гэтай прэміі не дадуць. Не такая, маўляў, гэтая краіна важная, каб яе прадстаўніку Нобеля даваць. Але зараз беларусы зноў абнадзеіліся.

Ну, але! Нобелеўскі камітэт на чале з генеральным сакратаром Рады Еўропы аддаў прэмію Еўропе. Дакладней Еўрасаюзу. Застаецца толькі сардэчна павіншаваць жыхароў Еўрасаюза з такой высокай узнагародай як Нобелеўская прэмія міру. Камітэт па ўручэнню гэтай прэстыжнай прэміі доўга думаў, хто больш зрабіў для ідэй міру: Еўрасаюз, ці беларускі змагар за правы чалавека Алесь Бяляцкі? І прыйшоў да высновы, што Еўрасаюз зрабіў больш.

Прайграць цэламу Еўрасаюзу не сорамна. Ды здаецца, ніхто самой высновы найвялікшага ўкладу Еўрасаюза ў справу міру не стаў аспрэчваць. Было б сапраўды дзіўным, калі б адзін чалавек зрабіў больш чым цэлы кантынент. Дык чаму ж тады гэтае рашэнне выклікала здзіўленне і незразумеласць у такой вялікай колькасці паважаных людзей, у ліку якіх ёсць і нобелеўскія лаўрэаты? Дзіва нейкае! Тое, што прайграўшыя беларусы засмуціліся, гэта натуральная рэакцыя. Але тое, што пераможцы не лікуюць, выклікае здзіўленне.

Можа найперш таму, што вельмі ж цяжка прасачыць логіку гэтага рашэння. Зразумела нават дурню, што з Еўрасаюзам канкураваць не ў стане ні асобныя людзі, ні нават арганізацыі. Прычым не толькі ў намінацыі міру, але і ва ўсіх астатніх. Дык чаму тады ў галіне фізікі, прыкладам, ці літаратуры ўзнагароды даставалі асобныя людзі, а не ўсё той жа Еўрасаюз? Няўжо цэлы Еўрасаюз з яго ўсімі навуковымі і культурніцкімі штатамі супрацоўнікаў здзейсніў менш, чым асобныя людзі, і не змог у гэтых намінацыях перамагчы нейкіх канкрэтных навукоўцаў і літаратараў?

Наўрад ці. Гэтак жа як і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Барак Абама наўрад ці змог бы, пры ўсім жаданні, зрабіць больш чым уся краіна Злучаныя Штаты Амерыкі, з іх шматвекавой гісторыяй змагання за ідэалы міру. Але ж узнагароду міру ўручылі не ўсяму ЗША ў цэлым, а толькі яго прадстаўніку Бараку Абаму. І не за ўвесь перыяд дзейнасці штатаў, а толькі за канкрэтныя памкненні ў адзін канкрэтны год.

Дык чаму ж зараз, менавіта ў гэты год, калі яшчэ не завершана да канца фармаванне Еўрасаюза, калі ёсць яшчэ еўрапейскія краіны, у тым ліку і Беларусь, якія не ўваходзяць у адзіную еўрасям'ю, калі на еўрапейскім кантыненце, усё ў той жа Беларусі, практыкуецца смяротнае пакаранне і ніякія еўрапейскія заявы не ў стане спыніць гэты працэс, чаму менавіта зараз захацелася адзначыць шасцідзесяцігадовую працу прэміяй? Ні годам раней, ні годам пазней! А акурат цяпер, калі ў шортлісце на атрыманне прэстыжнай узнагароды былі прозвішчы менавіта тых змагароў за еўрапейскія каштоўнасці, урады краін якіх пляваць хацелі на ўсе рэкамендацыі Еўрасаюза? А саміх змагароў трымаюць падалей ад мажлівага поля змагання. І Еўрасаюз анічога не можа з гэтым зрабіць.

І справа не толькі ў тым, што гэтая прэмія магла б вызваліць беларускага намінанта Алеся Бяляцкага з-за крат, чаго так упарта дамагаецца ўсё той жа Еўрасаюз. І нават не ў тым, што гонар за першую ў сваёй гісторыі Нобелеўскую прэмію мог бы падштурхнуць беларусаў больш актыўна рухацца ў бок усё таго ж Еўрасаюза. І зусім не ў тым, што нават дэпутаты еўрапарламента выказаліся за ўручэнне прэміі менавіта Алесю Бяляцкаму. Разгубленасць і крыўда ў беларусаў як заўсёды на сябе. І акурат з-за таго, што ўсё чарговы раз выглядала так, як быццам бы мы маленькія і наіўныя дзеці, якія ўвесь час заміралі пад ёлачку, чакаючы ад бацькоў каляднага падарунка. А маці ўзяла той падарунак, і аддала яго больш вартаму на яе думку іхнаму бацьку.

Наіўныя беларусы. Зусім як дзеці.

Віктар САЗОНАЎ

# Абяцанкі-цацанкі

Дзякую табе, Права і справядлівасць! Маніпулюючы, пад'юджваючы, абаламучваючы, цкуючы грамадзян адны на адных, раздзяляючы іх на патрыётаў і ворагаў, зрабіла ты тое, чаго ніхто іншы не змог дасягнуць — прабудзіла Туска. Дональда Туска. А ён спаў, кажуць, таму так доўга, бо баяўся падслухоўванняў. Вядома, калі чалавек спіць, не грэшыць. Упарта мелі яго падслухоўваць польскія спецслужбы, якія падлягаюць, вось — яму, прэм'еру Дональду Туску. Што такое? Ці вынікае з гэтага, што гэта прэм'ер даручыў службам сочку за Дональдам Тускам? Чыстая шызафрэнія.

Робіцца нашмат ясней, калі паглядзець на хваробную карту Польшчы. Без сумніву, шызафрэнічны раскол светапоглядны і палітычнай асобы, на які яна занядужала ў міжваеннае дваццацігоддзе, не вылечылі ані гітлераўская і бальшавіцкая акупацыі, ані электрашокі сталінскіх рэпрэсій, ані псіхатропная тэрапія геркаўскай дэкады. Мне, наіўнаму, здавалася, што дэмакратыя акажацца паспяховым сродкам на гэтую хваробу; ды дзе там! Польска-польская вайна, якая працягваецца пад ашалёўкай дэмакратыі даказвае, што польская шызафрэнія паглыбляецца. У Польшчы ад шматлікіх гадоў пануе двоеўладдзе, якое выконваюць Грамядзянская платформа і ПіС. А калі адна прабуе кіраваць дзяржавай, вядома, не спаўшы, другая — грамадзянскімі эмоцыямі. Апошнія даследаванні грамадскай думкі, выяўляючыя саракапрацэнтную падтрымку для ПіС, паказваюць, якая з іх лепш кіруе сваёй часткай.

Факт, насуперак дзяржаўнай рацыі, насуперак логіцы і здароваму розуму адна ўлада прабуе знішчыць другую. Фонам для гэтай вайны з'яўляецца бясконцая спрэчка за светапогляд, за канцэпцыю жыцця ў сучасным свеце, за адносіны да гісторыі і будучыні. Але не таму гэтая вайна такая жорсткая, заўзятая і бязлітасная. У Вялікабрытаніі або Францыі палітычныя ці ідэалагічныя падзелы яшчэ глыбейшыя чым у Польшчы, аднак ніхто не пасмее выклікаць у іх унутраных войнаў. Можна тэарэтызаваць, ці грамадзянскія рэвалюцыі, пераараўшыя гэтыя краіны ў XVII і XVIII стагоддзях, назаўжды вылечылі іх грамадзян з аўтахтоннай нянавісці, светапогляднай напыхлівасці, нацыяналістычных амбіцый ці нацыянальнай дробязнасці. Так, сварацца яны паміж сабою, абражаюць адзін аднаго, ды не перакрочваюць пэўнай мяжы, якая намячае гістарычную памяць вынікаў разбушаваўшага ад грамадзянскай вайны тэрору, пралітай крыві і дзесяткаў тысяч ахвяр. Польшча ніколі не дасведчыла такога татальнага пажарышча, хаця пасля 1945 года амаль да яго не дайшло. Толькі ці можна гаварыць аб унутраным канфлікце светапоглядных і палітычных пазіцый, калі адзін з антаганістаў засланяецца савецкімі вайскамі і нацкоўвае на сваіх палітычных і ідэалагічных праціўнікаў катаў з НКУС? Так вось польска-польская нянавісць — што можа прагучаць цынічна — не мела нагоды выгарэць аж да касцей і таму ўсё тлее ў палітычных кірмашах і ў персанальных сварках. Прызнаюся, досыць смелая і нават баламутная гэта канцэпцыя, ды калі яна камусьці не падабаецца, няхай запрапануе разумнейшую. Час пачаць публічную гаворку на гэтую тэму. Польшча гэта не толькі польска-польскае пытанне, а таксама фундаментальная справа ўсіх яе грамадзян.

Ці партыя Яраслава Качынскага сёння гатова пераняць кіраванне дзяржавай? Ці партыя Туска гатова аддаць руль дзяржаўнага карабля і перайсці ў канструктыўную апазіцыю? Канструктыўную — адзначаю — а не ў заядлае і беззмястоўнае адмаўлянне ўсяго, што запрапануе ПіС? Шчыра ў гэтым сумняваюся. ГП, пераходзячы ў апазіцыю, схоча пераняць кіраванне грамадзянскімі эмоцыямі. З гэтай мэтай стане прымяняць тыя самыя прылады, якія прымяняла ў перамаганні свайго палітычнага апанента ПіС. Апаганьванне, маніпуляцыі, цкаванне, персанальныя атакі — гэтага можна спадзявацца. Рацыяй існавання гэтых двух партый з'яўляецца ўзаемнае тыраненне. Самастойна ні адна з іх не патрапіць ужо функцыянаваць. Спалучае іх ідэалагічная і персанальная нянавісць. Але так як і лучыць, таксама і раздзяляе. Таму і Туску, і Качынскаму так залежыць на ўтрыманні цяперашняга статус-кво — двоеўладдзя. І абодва гатовыя за яго шмат абяцаць узамен. У апошні час Туск — праўда, што вуснамі сваіх міністраў — абяцаў новыя дарогі, мадэрнізацыю і разбудову чыгункі, танныя, часткова субсідыяваныя дзяржавай жыллёвыя крэдыты для маладых і нават узнаўленне прац над занядбаным законам аб *in vitro*... Адкуль возьме на гэта грошы? Абяцанні, дарэчы — супольнае дабро абедзвюх партый. ПіС, калі кіравала, таксама абяцала — свабодную ад карупцыі і несправядлівасці Польшчу дабрабыту і гарамадзянскай роўнасці. Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць.

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Расце бунт



Штораз больш чутным становіцца незадавальненне ў адносінах да дзеянняў гарадскіх улад у беластоцкім культурным асяроддзі, а дакладней сярод людзей прадстаўляючых няўрадавыя арганізацыі, фонды ды індывідуальных творцаў і аніматараў культуры. Гаворка пра непрыстойна нізкія датацыі, размяркоўваныя на іх мерапрыемствы, але — можа перш за ўсё — пра спосаб падыходу да культуры ў горадзе ўвогуле. Да апошніх парламенцкіх выбараў адказваў за культуру ў падляшскай сталіцы віцэ-прэзідэнт Тадэвуш Арлуковіч, цяперашні сенатар. Спадчыну па ім узяла Рэната Пшыгодзкая, былая прадэкан факультэта эканоміі і кіравання Універсітэта ў Беластоку, падобна як папярэднік назначаная на гэтую пасаду па палітычным ключы (ГП). Даручылі ёй, апрача культуры, прамоцыю, а таксама кіраванне гарадской маёмасцю і сацыяльную дапамогу (гэтых апошніх абавязкаў не меў раней Тадэвуш Арлуковіч), што ўжо паказвае на спіхванне культуры на абочыну ў мышленні аб ёй беластоцкіх улад, а перш за ўсё галоўнага адказнага за ўсе рашэнні прэзідэнта Тадэвуша Трускаляскага.

Келіх незадавальнення пераліў ліст накіраваны ў Гарадскую раду прыватным агенцтвам STX Jamboree, якога прадстаўнікі хацелі б на магчымы ў наступным годзе чацвёрты выпуск фестывалю „Pozytywne Wibracje" 2,5 мільёна злотых, значыць, суму, за якую горад субсідуе амаль усе іншыя культурныя няўрадавыя мерапрыемствы, хаця дагэтуль на фестываль STX Jamboree грошы паходзілі з іншых крыніц у гарадской касе. У лісце арганізатары „Wibracji" выказалі жаданне, каб чарговы выпуск фестывалю „спрычыніўся да прамоцыі горада, прыцягнуў фанатаў пазітыўных гукаў з усяе Польшчы і расславіў Падляшша ў Еўропе". Дасюль улады Беластока, фінансава падтрымліваючы вельмі сур'ёзна гэтую двухдзённую імпрэзу (з удзелам міжнародных і польскіх зорак) тлумачылі, што тыя з гледачоў, якія сюды на яе прыйдуць, захочуць у Беласток вярнацца і стане яна адным з брэндаў горада. Дасюль няма доказаў, што гэтак і сталася.

У адказ на ліст STX Jamboree шэсць арганізацый, займаючыхся падрыхтоўкай у горадзе цыклічных культурных імпрэз (тэатр TrzyRzecze, Фонд Універсітэта ў Беластоку, Kobieteria, Згуртаванне фільмавай адукацыі, Фабрыка бестселераў і сайт Dzika Kultura) накіравалі ў офіс Гарадской рады лісты са зместам падобным у аргументацыі, таксама патрабуючы па 2,5 мільёна на свае мерапрыемствы. Іхныя лідары не скрываюць, што акцыя мела галоўным чынам характар хепенінгу. На фейсбуку тлумачылі: „Хочам падаць голас, што маецца некалькі цікавых ініцыятыў, якіх аніматары здзіўленыя, што не ў напрамку іхніх творчых высілкаў плыве падтрымка Гарадской управы. Што больш, лічым, што за такую суму можна зрабіць нашмат больш і з большай карысцю для горада".

Некалькі дзён пасля акцыі агенцтва STX Jamboree сарганізавала ў палацы Браніцкіх дэбату з няўрадавымі арганізацыямі Беластока, займаючыміся культурай пад лозунгам „Пазнаёмімся — платформа супрацоўніцтва паміж арганізатарамі агульнапольскіх мастацкіх падзей прысутных у Беластоку і ў Падляшскім ваяводстве". Дзякуючы лідару STX Jamboree Станіславу Тшцінскаму сустрэча (пры ўдзеле Рэнаты Пшыгодзкай, якая не запярэчыла, што Гарадская ўправа з'яўляецца яе арганізатарам) перарасла ў акцыю расхвальваючую „Pozytywne Wibracje", якіх апошні выпуск не карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод гледачоў, а прамоцыя Беластока ў яго кантэксце выглядала бляклая. Аб гэтай бурнай сустрэчы напішу ў „Вачах" праз тыдзень.

Тым часам адна выснова: Беласток культурна павінен прамаваца ў краіне і ў свеце праз тое, што ствараецца тут, карыстацца мясцовымі задумамі і аўтарамі, у тым ліку ў пераважнай ступені выкарыстоўваць шматкультурнасць, на якую так ахвотна спасылаюцца ўлады.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ



Царква ў Ялоўцы

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Ялоўкі (ч.2)

**У 1983 годзе Мікола Гайдук быў пісаў пра Ганчары: „Сёння тут жыве 20 сем’яў, але з іх усяго адна трымае ўласную гаспадарку, а ўсе іншыя здалі зямлю дзяржаве і дажываюць свой век з пенсіі. Ганчары сядзяць дробнымі крапінкамі сярод вялізнага абшару засеянага трактарамі і пажатага камбайнамі”. З таго часу, цягам амаль трыццаці гадоў той вялізны абшар — раней засеяны — зараз прадстаўляе сабою адно „крапінкі” абраблянага поля, шмат якога паглынае лес. А пры рэштках вясковай вуліцы асталіся толькі дзве круглагадова заселеныя хаты, тры засяляюцца толькі ў летні сезон, а пяць зімуюць і летуюць у поўнай адзіноце.**

З Ганчароў падаўся я ў бок колішняй Блізкаўшчыны, на месцы якой у гады „сацыялістычнага будаўніцтва” быў заснаваны пэгээр Кандраткі. Калі дзяржава вызвалілася ад ідэалагічнай трактоўкі гаспадаркі і перастала дафінансоўваць выбраныя гаспадарчыя суб’екты, пэгээр у Кандратках спыніў сваё існаванне. Асталіся па ім адміністрацыйныя і гаспадарчыя будынкі, на якія ніхто не палакоміўся; зараз па іх толькі вецер гуляе. Сама вёска Кандраткі, якая дала назву і пэгээру, і газанапорнай станцыі на лініі Ямальскага газаправода, невялічкая, хаты ў ёй даволі задбаныя.

У Ялоўцы падаўся я ў напрамку царквы, але ўжо не было там нават слядоў прыхадскога свята. Літаральна, бо ж калі раней было ў вёсках шмат народу, прыязджала на тую нагоду шмат прадаўцоў усялякай усялячыны, асабліва прызначанай дзецям, а калі народ разыходзіўся святкаваць менш афіцыйна, тады на месцы ларкоў аставалася нейкая колькасць звычайнага смецця; у Ялоўцы каля царквы на гэты раз было чыста. Гэта знак дэмаграфічнага заняпаду, адсутнасці дзетвары і, значыць, адсутнасці зацікаўлення святам гандлёвага народу. Ды не толькі наймалодшага пакалення не мае Ялоўка — са старэйшым пакаленнем там таксама, трэба меркаваць, тугавата. Вось на тамашняй царкоўнай дошцы аб’яў вывешана паведамленне, што набажэнствы ў зімовы час будуць там адпраўляцца не ў царкве, але ў званіцы. Прыцаркоўны інфармацыйны стэнд паведамляе: „Obecna cerkiew została wybudowana w latach 1959-1965 z inicjatywy ówczesnego proboszcza Konstantyna Doroszkiewicza. Jest projektu znanego profesora architektury z Poznania Aleksandra Grygorowicza. Cerkiew jest pod wezwaniem Podwyższenia Krzyża Świętego (święto parafialne 27 września). Wewnątrz cerkwi znajduje się ikonostas, oddzielający ołtarz od części środkowej. Pochodzi z XVIII wieku ze zburzonej w okresie międzywojennym cerkwi garnizonowej w Suwałkach. W roku 1998 autor doprojektował nową dzwonnicę, ustawioną częściowo na otaczającym działkę cerkiewną murze. Wewnątrz mieści się cerkiew pw. Św. Równych Apostołom Konstantyna i Heleny (dzień pamięci 2 czerwca)”. Праўда, аснова арыгінальнай трохкупальнай званіцы пры ялоўскай царкве абшырная, але ж колькі там можа памясціцца вернікаў, пакідаючы яшчэ чыста абрадавую прастору для святара...

Хіба не лепш выглядае справа і ў каталіцкім абшары Ялоўкі, бо пры касцёле вывешана паведамленне пра пачатак трохдзённага набажэнства; але нейкага зруху вернікаў у бок касцёла я не заўважыў. А калісь жа Ялоўка была даволі буйным рэлігійным цэнтрам, у якім у парывах бывала то па дзве царквы, то па два касцёлы...

Мяркуецца, што ў пачатку XVI стагоддзя ў Ялоўцы была пабудавана царква, а крыху пазней, па ініцыятыве каралевы Боны, касцёл Міхала Арханёла. 21 снежня 1545 года Ялоўка стала горадам, а пазнейшыя гады спрыялі яе росту, бо тудою пралягалі важныя камунікацыі; сюдою двойчы — у 1580 і ў 1582 гадах праязджаў кароль Стэфан Баторый. Аднак палова наступнага стагоддзя прынесла шмат гора — шведскі „патоп” прычыніў Ялоўцы вялікія шкоды; горад страціў дзве трэці сваёй забудовы. Не дзіва тады, што візітуючы ў 1674-1677 гадах віленскі біскуп Мікалай Слупскі так характарызаваў мясцовасць: „Jałówka, kościół ubogiej struktury, do szopy podobny, prob. ks. Łabicki, nie podał dokumentu o swym naznaczeniu na to probostwo. Opuszczenie straszne, kurzu pełno. Kazano wszystko naprawić pod grozą kary od biskupa”. Чарговы ўдар нанесла Ялоўцы Паўночная вайна ў пачатку XVIII стагоддзя, а дакладней рабункі такіх жа шведскіх войск ды сваіх, каронных.

У 1780 годзе ялоўскую — тады ўніяцкую — царкву наведваў падляшскі дэкан Базыль Гуторскі; вось як ён яе апісваў: „Cerkiew pod tytułem Podwyższenia Świętego Krzyża, drzewniana, gontami kryta z kopułą i krzyżem żelaznym. W tej kopule dzwonek. Cmentarz wkoło oparkaniony, ale parkan stary. Na cmentarzu dzwonnica nowa, gontami kryta, z krzyżykiem małym na wierzchu. U dołu komórka dla schowania ciał umarłych czasu tęgich mrozów. Dzwonów dwa wiszących”. Да тадышняга Ялоўскага прыхода належалі м.інш. Мастаўляны, Дубляны, Зубры, Луплянка, Лявоневічы, Падазераны, Ціванюкі, Юшкаў Груд, Таніца і Рыбакі. У 1794 годзе была пабудавана ў Ялоўцы новая, драўляная царква.

Ды і стары драўляны касцёл дажываў свой век, таму ў 1859 годзе ялоўскія парафіяне пачалі пабудову новага, мураванага. Але ж неўзабаве ўспыхнула Студзеньскае паўстанне, у час якога ў Ялоўцы быў спыніўся атрад самога Валерыя Урублеўскага. А гэта, мабыць, паслужыла царскім уладам зачэпкай для адабрання ў 1866 годзе ў католікаў будаванага храма і перадачы яго праваслаўным, якія завяршылі яго на свой лад у наступным годзе, прысвячаючы яго Аляксандру Неўскаму. Прыход пад такім названнем быў арганізаваны ў Ялоўцы ўжо ў 1861 годзе; спачатку быў ён без храма, у 1866 годзе прыход атрымаў стары драўляны касцёл, бо ў той час была ліквідавана каталіцкая парафія ў Ялоўцы, а вернікі далучаны да Свіслацкай парафіі; у 1867 годзе ў новым прыходзе былі ўжо два храмы...

Пасля адмены ў 1905 годзе рэлігійнага ціску ялоўскія католікі пачалі хадайнічаць за ўтварэнне там парафіі і пабудову касцёла. Парафія святога Антонія была створана ў 1907 годзе віленскім біскупам Эдвардам Ропам. Яна атрымала старэнькі касцёл, а тры гады пазней пачалася будова новага касцёла, завершаная ў 1915 годзе. Партал Беластоцкай архідыяцэзіі: „Budowę rozpoczęto w 1910 r. Projekt świątyni w stylu romańskim wykonał architekt z Grodna B. A. Sroka. Zbudowano jednak w stylu gotyckim. Nie znamy okoliczności tej zmiany. Po odzyskaniu niepodległości przez Polskę władze państwowe przekazały katolikom w 1921 r. zabrany przez władze carskie kościół, przerobiony na cerkiew. Dostosowano ją do kultu katolickiego i poświęcono 25 VI 1922 r. pw. Przemienienia Pańskiego i św. Michała. Od tego czasu funkcjonowały w Jałówce dwie parafie katolickie. Cofający się w 1944 r. Niemcy zburzyli wieżę kościoła i bardzo mocno uszkodzili cały kościół św. Antoniego”. З таго часу ў Ялоўцы асталася адна каталіцкая парафія.

Тыя ж немцы тры гады раней, 24 чэрвеня 1941 года, бамбілі Ялоўку, у выніку чаго ўспыхнула шмат пажараў, якія паглынулі і драўляную праваслаўную царкву. Немцы падказвалі праваслаўным, што памогуць вярнуць ім той касцёл, у якім раней была царква, але праваслаўныя рашуча ад гэтага адмовіліся і вырашылі ўзвесці сабе новы храм. У 1942 годзе пачалася пабудова царквы, але ў 1944 годзе адступаючыя немцы не толькі збурылі касцёл св. Антонія, але яшчэ ўзнялі ў Ялоўцы пажары, у выніку якіх згарэла і будаваная царква...

І зараз, так як чатырыста гадоў таму, у Ялоўцы два храмы. А можа нават можна сказаць, што два з паловай. Бо ж часткова разбураны гатычны касцёл св. Антонія яшчэ цалкам не здаў сваіх функцый. І маю тут на думцы не толькі рэлігійныя абрады, якія часам адпраўляюцца перад руінамі храма. Бо гэтыя руіны ствараюць даволі маляўнічы антураж. Акурат калі я да іх набліжаўся, пабачыў там маладую пару, якая ўвекавечвала там свае шчаслівыя хвіліны. Ну, скажам, дзесьці ў свеце ёсць парэшткі Акропаля ці Калізея, але ж на іх эстэтычны свет не канчаецца...

Побач Праабражэнскага касцёла знаходзіцца іншы гістарычны аб’ект — будынак колішняй школы. Раней, калі ў гэтым касцёле была царква, у канцы XIX стагоддзя на царкоўным грунце побач быў узведзены мураваны двухпавярховы школьны будынак. Служыў ён адукацыйным мэтам амаль век; з дэмаграфічным заняпадам Ялоўкі скарачаўся і лік вучняў. Зараз будынак выконвае ролю гасцініцы для тамашняй газанапорнай станцыі.

Ялоўцы не пашанцавала. Хаця пачаткі мясцовасці былі даволі перспектыўныя, бо ж была яна своеасаблівай зрэнкай у воку каралевы Боны і наведваўся сюды кароль Баторый, далейшы яе лёс склаўся не найлепш. Згаданыя войны 1650-х і 1700-х гадоў руйнавалі горад матэрыяльна і дэмаграфічна, а эпідэмія мору 1840-х гадоў скарацiла лік насельніцтва горада на амаль палову. Чарговым ударам была пракладка чыгуначных ліній здалёк ад мясцовасці. Другая сусветная вайна прынесла заняпад тамашняга прадпрымальніцтва з прыходам саветаў ды вынішчэнне больш паловы насельніцтва ў рамках галакосту; пры нагодзе счэзлі з твару зямлі дзве тамашнія сінагогі. Далейшае ўстанаўленне дзяржаўнай граніцы па русот метраў за мястэчкам пазбавіла Ялоўку ролі мясцовага грамадскага цэнтра і насельніцтва — так мястэчка, як і навакольных вёсак — у настал мабільны век масава стала пакідаць зямлю продкаў. Мала месца прысвячалі Ялоўцы ранейшыя даведнікі, напрыклад энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана век таму падавала сціпла: „Яловка — местечко Гродненской губернии, Волковыского уезда, при реке Яловке. Жителей 1365; церковь, костел, синагога, училище. Я. известно с XVI века”. А даволі змястоўны даведнік Балінскага „Starożytna Polska” з паловы XIX стагоддзя і зусім не згадваў пра Ялоўку; з сённяшняй перспектывы падаецца, што аўтар быў неблагім прарочам.



Сцены касцёла св. Антонія ў Ялоўцы

## Астануцца адны ўспаміны

Лета адыходзіць ад нас, астануцца ад яго ўспаміны. А якое сёлета яно было? Ці прыемнае было нам, ці прыйдзецца праклінаць яго ўсю зіму? Не, наракаць нам на яго не трэба. І праклінаць яго мы не павінны. Шкоды яно нам не зрабіла. І ў полі, і ў агародзе нам усё абрадзіла. І цяпла нам не бракавала, бо ж нямала сонейка летам свяціла. Птушкі ўсё лета спявалі, хаця сёлета іх менш было.

Аднак нам пакуль не трэба яшчэ наракаць. Што асталося на свеце, з тым трэба жыць і да новых абставін прывыкаць. Бо толькі тады мы пра лета ўспомнім, калі зімою мароз дапячэ. Тады не адзін прыгадае лета і прамовіць сам да сябе: Лета, ах лета, а дзе ж ты цяпер? Вярталіся да нас як найхутчэй, бо калі ты з намі было, мы цябе не дацанілі і неаднойчы кепскія словы пра цябе гаварылі.

Толькі чалавек ужо такі ёсць — калі ўжо добра мае, хоча яшчэ лепшага. Праўду кажуць: яшчэ такі на свет не прыйшоў, каб усім дагадзіў і хто што захоча ўсё ім знайшоў. Так і ў прыродзе бывае — хто ўсяго ўдосталь мае, той найбольш наракае. І калі не пажыве ў нядолі, тады будзе ўсім незадаволены.

Відаць і мы не дацанілі лета ў ягоную пару. А калі надыдуць восеньскія халады, апамятаемся тады і мы. І скажам: лета, ах лета, чаму так рана пакінула нас? Таму што мы забылі пра наступ зімовага часу, аб якім усё нам прыпамінала.

Бусляніца пустая, а было тут аж чацвёра буслянят; пастараліся буслы аб сваім прыплодзе як ніколі. Здаецца: як іх пракармілі. Аднак буслы лёталі штодзённа і ежу малечам здабывалі. Выгадавалі ўсіх і ўжо ад нас забралі і павялі ў цёплую краіну. А на памятку пра іх толькі гнёзды нам асталіся.

Восень да нас спяшае. Насталі халодныя поранкі, неўзабаве надыдуць пахмурныя дні, пакропіць халодны дождж. Дзякуй Богу за гэта, што мы восені дачакалі. І каб яшчэ зіму перазімаваць. Невядома, якая яна нам будзе. Каб хаця снегу многа не было і мароз не вельмі нас марозіў. Тады можа і нам не будзе цяжка зіму зімаваць. Абы наступнай вясны дачакаць, а там ужо і лета. І зноў ты будзеш цешыць нас сваёй красой, цяплом і кветкамі. А можа і зязюля прыляціць і накукуе, як даўней, колькі гадоў жыць мы будзем. Пара канчаць у апошнія дні лета — няхай ужо восень наступае.

**Грыша МАРОЗ**

## Цёмная ночка

Калі бурмістр горада Васількава аб'явіў, што ад гадзіны 23-й да 4-й спыняе асвятлянне горада, жыхары пратэставалі, што будзе вельмі цёмна хадзіць вуліцамі і яны паразбіваюць сабе галовы аб платы; нават са скаргай выступалі да падляшскага ваяводы, каб ён адмяніў рашэнне бурмістра.

У нашых вёсках ужо ад некалькіх гадоў пасля 23-й гадзіны няма асвятлення вуліц, а ў летнюю пару таксама асвятлення няма, бо яно непатрэбнае. Жыхары горада Васількава не павінны скардзіцца на свайго бурмістра, а паколькі жывуць яны побач Беластока, дык павінны выступіць да прэзідэнта гэтага горада каб ён у сябе загадаў пазней уключаць вулічнае асвятленне ды намнога раней яго гасіць — так каб сонца і вулічнае асвятленне не свяцілі разам. Мяркую, што за гэта многія людзі былі б яму ўдзячныя ды яшчэ немалая ашчаднасць была б у гарадскім бюджэце.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# У нядзельку пасля імшы



Ян Анцыпа (у цэнтры) вёў Рэгіянальную ізбу ў Янаўшчыне дванаццаць гадоў. У гэтым часе ўдалося яму адрамантаваць дах, уцяпліць будынак, пракласці водапровад, паставіць печ у кухні ізбы.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

Ванда Шушкейч жыве пры самой Рэгіянальнай ізбе. З акон яе хаты відаць будынак, які яшчэ да нядаўна прыцягваў увагу экспанатамі, расстаўленымі пры плоце.

— Ён наняў вялікую машыну. Я захварэла, калі ўсё згэтуль выносіў. Заплаціў для мяне за кросны і драўляную кацюбу для гортання ў печы. Яшчэ стаяла ў ізбе мая драбінка. Яе аддаў.

Кухня Ванды Шушкейч невялікая. Печ, якая можа змясціць нават сем буханак хлеба, займала большую яе частку. Калісь штотыдзень Ванда столькі выпякала хлеба, колькі памесціла печ. Сёння яна засталася адна. Дачка ў Беластоку, сын лечыцца ад алкагалізму.

— Я нярэдка задумваюся калі адна сяджу дома: „Божа, як яны возьмуць цяпер гэты ключ ад Анцыпы! У нас многа маладых мамаў, іх мужыкі п'юць, бабы таксама. Уяўляю сабе, што там будзе далей", — Ванда памаўчала і глянула на ізбу. — Ну, высокі плот паставілі ад мяне, гэтым цешуся.

Ужо з будынка зніклі шылда „Рэгіянальная ізба" і шторы з вокнаў, цераз якія можна дагледзець пустыя пакоі.

— Будзе яшчэ адно пасяджэнне салэцкай рады, — кажа солтыс Янаўшчыны Тарэса Грынчэль. — Тады ўжо прымем пастанову, што далей зрабіць з гэтым будынкам.

Ян Анцыпа вёў Рэгіянальную ізбу ў Янаўшчыне дванаццаць гадоў. У гэтым часе ўдалося яму адрамантаваць дах, уцяпліць будынак, пракласці водаправод, паставіць печ у кухні ізбы.

— Тады дапамагала мая сяброўка, настаўніца Маргарыта Козак, — кажа Ян Анцыпа. — Трэба было паправіць каміны, пакрыць дах бляхай. Можа гэтая работа не зусім прафесійна зроблена, але я гэта рабіў першы раз у жыцці.

Акрамя гэтага Анцыпа збіраў прылады, якімі даўней карысталіся жыхары Янаўшчыны і акалічных вёсак. Пры дапамозе аднавяскоўцаў прыпамінаў рэцэпты на стравы, якімі даўней харчаваліся тутэйшыя людзі. Сакольскі кумпяк, які даспявае на гарышчы хаты, ці сушаны сыр — гэта прадукты, пра якія гаварылі ў агульнапольскім тэлебачанні. Анцыпа стараўся падкрэсліваць культурную адметнасць гэтага рэгіёна Польшчы.

— Было такое вяселле. Божа, як тут было цудоўна! — Тарэса скрыжавала рукі на грудзях, быццам у малітве. — І карову вялі ў пасаг, і такія маладыя студэнткі адыгрывалі гэтыя ролі. Вельмі мне падабалася.

Пад вялікім уражаннем дзейнасці Анцыпы знаходзіцца таксама Лілька Шорц з Мачальні. Не паспелі мы абмяняцца між сабой чатырма сказамі, як яна ўжо праспявала беларускую песню.

— Мне семдзесят пяць гадоў, а помню песню, якой мяне яшчэ навучыла бабка, — ганарылася спадарыня Шорц. — Я хадзіла часта ў ізбу, мы там спявалі песні, а я так люблю спяваць! Хаця астму маю. Адны ніякіх закідаў да Анцыпы не маюць, а другія — супраціўляюцца. Гавораць, што ён збагацеў. Я не дапытваюся, і не веру ў гэта. Не такая я хітрая.

Канфлікт цягнецца ўжо некалькі гадоў. Жыхары Янаўшчыны ўспамінаюць, што некаторыя адвярнуліся ад Анцыпы, калі ў вёсцы паявіўся шанц на адкрыццё жвіроўні.

— Спадар Анцыпа ў гэтым часе быў радным у гміне, — кажа бурмістр Саколкі Станіслаў Малахвей. — Управа гміны падтрымлівала яго становішча, каб не дазволіць адкрыць жвіроўню.

Нягледзячы на пратэсты, жвіроўня будзе. Сам Анцыпа стаў ненавісны некаторым жыхарам Янаўшчыны. Галоўным чынам былі гэта тыя асобы, на якіх полі мела ўзнікнуць жвіроўня. За такую прыслугу гаспадарам плаціць да 150 тысяч злотых ад гектара.

— Мы пратэставалі. Луг можна скасіць два разы ў год, а тут давалі многа грошай, — сказала Ванда Шушкейч. — Для яго нават зрабілі крыж, труну, а наверх паклалі сякеру. Цэлую зіму мы ездзілі пратэставаць да бурмістра. Што там выраблялася...

У вераснёвую нядзелю радныя сустрэліся з жыхарамі Янаўшчыны ў пачатковай школе, таму што не было ключа ад ізбы і самога Анцыпы.

— Апошнім часам цяжка было дапрасіцца ключа, — скардзіцца солтыс Янаўшчыны Тарэса Грынчэль. — Спадара Анцыпы няма ў Янаўшчыне, ён жыве ў Павелках. Калі хтосьці да нас прыязджае, мы таксама хочам паказаць ізбу, а яна заўсёды закрытая.

Сам Анцыпа тлумачыць, што ніхто не паінфармаваў яго аб сходзе. Не мог давезці ключа таму, што ў той жа момант атрымліваў узнагароду міністра сельскай гаспадаркі за сваю дзейнасць у ізбе. Гэта ўжо другая адзнака. Першую атрымаў у 2009 годзе ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны.

— На сходзе адна жанчына сказала, што возьме ключ. Такая з пачатку вёскі. Яна працуе, але ўжо падняла руку, што возьме ключ ад ізбы, — прыгадвае Ванда Шушкейч. — Для мяне тады крыху сумна зрабілася. А яна мае мужыка такога дурнаватага! Як прыйдзе на новы год, то ён траўку курыць. А што, ён водкі не вып'е?! Такія ў нас людзі.

— На сустрэчы ў школе ўсе былі супраць Анцыпе? — пытаюся.

— Гэтыя ўсе радныя з Саколкі сталі за Анцыпам. Але была такая шалёная баба з вёскі, што як хтосьці не падняў рукі, тады яна пачынала сварыцца. На адну кабету з вёскі, якая таксама была за Анцыпам, так нагаварылі, што тая ўцякла з гэтага сходу.

— Спадар Анцыпа быў калісь такім звычайным чалавекам, як мы ўсе, — дадае Тарэса Грынчэль, папраўляючы сумку з пакупкамі. — Не ведаю чаму ён так змяніўся. Можа цераз гэтыя грошы, не ведаю... Не раз мы бачылі ў газеце, як ён атрымлівае ўзнагароды. Грошы таксама даставаў. Ніхто іх не бачыў, а ўсе дапамагалі.

Салэцкая рада чакае дакументаў з гміны аб дзейнасці Рэгіянальнай ізбы на працягу апошніх гадоў.

— Тарэска Грынчэль прыедзе на ровары, скажа дзе сустрэнемся. Напэўна так як заўсёды, у нядзельку пасля імшы, — кажа Часлава Каролькук, солтыс Падкамёнкі. — Тады ўсё будзе ясна.

Крыху здзіўлены завяршэннем цэлай справы здаецца быць бурмістр Саколкі Станіслаў Малахвей.

— Я размічваў на гэта, што ў Янаўшчыне людзі дагаворацца. Відавочна спадар Анцыпа ўжо меў досыць. Таму забраў усе экспанаты з ізбы і не хоча ўжо размаўляць. Я гэта разумею. Страціць Янаўшчына.

Ян Анцыпа, у адпаведнасці са становішчам бурмістра Малахвея, мае шанц на гэта, каб атрымаць іншы будынак на працягванне сваёй дзейнасці.

— У Янаўшчыну ніколі не вярнуся, — запэўнівае Анцыпа. — Гэта дарэмная работа. Шкада часу і жыцця. Сарганізую рэгіянальную ізбу ў іншым месцы. Я навучаны, што магу лічыць выключна на сябе.





Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Жаночыя сустрэчы на канцы свету

Прынамсі раз у месяц лапіцкая хата на канцы свету, у якой пражывае спадарыня Ганна Сянкевіч, запаўняецца знаёмымі жанчынамі з наваколля і іх дзяцьмі. Амаль пустэльніцкі лад жыцця пасярод дзікай прыроды і прыгожых ландшафтаў таксама на тэрыторыі па другім баку мяжы выдатна спрыяе творчым пошукам гаспадыні. Адной з апошніх спраў зроджаных у яе думках стаў праект „Ярмарка крэатыўнасці". Ён накіраваны да жанчын па натуры зацікаўленых светам і ўласным унутраным развіццём, якім серыял на тэлебачанні ці кніжка пра танны раман не з'яўляюцца неабходнай часткай штодзённага існавання. Менавіта такіх людзей прыцягвае да сябе спадарыня Ганна. Пры вялікім драўляным стале з хатняй выпечкай і гарбатай хапае месца ўсім, незалежна ад узросту, сацыяльнага статусу ці канфесійна-нацыянальнай прыналежнасці. Кожнае спатканне ў гасцінных парогах хаты на канцы свету з'яўляецца непаўторным і адметным.

Апошняе, верасянёвае спатканне, адкрывала цыкл культурна-мастацкіх майстар-класаў ладжаных у рамках узгаданага праекта. Спадарыня Ганна выявіла прысутным, у ліку якіх апынулася, між іншым, старшыня Гміннай рады ў Крынках спадарыня Аліцыя Трызна, што грошы якія атрымала на здзяйсненне гэтай задумы паходзяць з Польска-Амерыканскага фонду свабоды і Аб'яднання творчых ініцыятыў „ç". Рэалізавацца яно будзе ў супрацоўніцтве з падляшскім аб'яднаннем „Аксіс Мундзі".

— Пачынаецца другі год нашых сустрэч, — распавядала спадарыня Ганна, — асновай якіх было мінулае свята Дзядоў. Тады, дзякуючы нашым знаёмым спадарожніцам мы знаёміліся з абрадамі ўшанавання продкаў у такіх далёкіх краінах як Мексіка ці Індыя. У гэтым годзе таксама хачу вярнуцца да гэтай тэмы. Я сама прыезджая, але ведаю, што культурная спадчына Крыншчыны насычана беларускімі, польскімі, яўрэйскімі і татарскімі традыцыямі. Менавіта памінальным абрадам гэтых культур хачу прысвяціць нашу бліжэйшую лістападаўскую сустрэчу. Дадатковай складовай новага цыкла будуць інтэграцыйныя, развесяляючыя гульні, падрыхтаваныя спецыялісткамі па цыркавай педагогіцы Аннай Войшэль і Віялетай Вурановіч-Лінго з падляшскага аб'яднання „Аксіс Мундзі".

Галоўнай гераіняй вечара, дзеля якой сабраліся цікавыя свету жанчыны, была спадарыня Анна Тамашэўская з Крынак, вядомая рукадзельніца, спецыялістка па вырабе, між іншым, традыцыйных для гэтай ваколіцы папяровых фіранак.

Рукадзелле спадарыні Анны няраз было ўзнагароджвана на конкурсах павятовага і ваяводскага маштабу. З-пад яе рук выходзяць не толькі традыцыйныя выцінанкі, але і цудоўныя вышыванкі, цацкі вязаныя кручком, папяровыя кветкі і многа чаго яшчэ. Яе работы базуюць не толькі на ведах і традыцыях перададзеных продкамі, але перад усім на ўласнай творчай вынаходлівасці. Дзякуючы працы яе рук паўсталі, між іншым, удалыя рэканструкцыі традыцыйнага адзення прэзентаванага крынскім дуэтам „Зараніца" .

— Вышыўка, выцінанка ці трыкатажная вытворчасць ёсць самай лепшай формай адпачынку, — кажа спадарыня Анна. — Такая работа мяне супакойвае. Напэўна не кожны на гэта ўмелы, тут важная цярплівасць, рашучасць і добры густ. Папяровыя выцінанкі таксама забіраюць шмат часу. Гэта ж не толькі трэба выразаць, але ж і спраектаваць, абдумаць новы ўзор. Фіранкі лепш рабіць з саліднейшай паперы, яе потым можна лёгка распрасаваць. Спачатку алоўкам трэба разрысаваць узор, які маленькімі ножнічкамі, ножыкам ці лязом вырэзваецца.

За работай, вядома, добра і пагутарыць. Жанчыны з увагай слухалі не толькі працоўных інструкцый, але і персанальных аповедаў настаўніцы.

— Я сама родам з пушчанскай вёскі Юзафова, — працягвае спадарыня Анна. — Гэта па дарозе з Гарадка ў Крынкі. Мая вёска незвычайная. Яшчэ пры цары пасяліліся там бунтаўнікі з-пад Міхалова, у асноўным сем'і Грыкаў, Іванюкоў і Казусюкаў, якія адмаўляліся абрабляць панскія загоны. Не ведаю ні імя, ні прозвішча пана, які ў рамках пакарання іх туды выгнаў. Вядома толькі, што меў ён сыноў: малодшага Юзэфа ў гонар якога назвалі нашу вёску і старэйшага Геранімa, уладальніка падміхалоўскага Геранімова. Вясковая легенда перадаваная вуснай дарогай з пакалення ў пакаленне знаходзіць пацвярджэнне сваёй сапраўднасці таксама і ў прасторавым распланаванні гаспадарчых будынкаў. Пры галоўнай вясковай дарозе ў месцы хат стаяць хлявы, за імі стадолы, а на самым задзе жылыя будынкі. Гэта таму, што пан, выганяючы непаслухмяных сялян, загадаў: „Калі буду праязджаць праз вёску, не хачу вас бачыць". Яны ж мусілі дастасавацца, таму хат ад дарогі не відаць.

Цікавую гісторыю Юзафова расказаў спадарыні Анне старэйшы брат, якога, на жаль, няма ўжо ў жывых.

— Памятаю, малая была, за папяровымі фіранкамі з мамай падаваліся мы на кірмаш у Гарадок. Калісь грошай у вясковых людзей не было, таму маглі яны дазволіць сабе толькі папяровыя. Такія фіранкі выконваліся оптам, таму ўзоры на іх вырэзвалі не ножнічкамі, а вострым долатам. За маіх часоў папяровыя фіранкі вешалі толькі ў кухні. Іх часта трэба было мяняць — на вёсцы, вядома, сажа, пыл, мухі, папера хутка рабілася жоўта-шэрай. Толькі ад густу і замілавання да чысціні індывідуальнай гаспадыні залежала, як доўга яны віселі на акне. Папяровыя фіранкі выраблякь я пачала нядаўна. Два гады таму пазваніла мне дырэктарка Шудзялаўскага дома культуры з прапановай удзелу ў конкурсе на найпрыгажэйшую выцінанку. У асноўным я займаюся гэтай справай толькі дзеля конкурсаў, у якіх мае работы заўсёды заўважаюцца. Штодзень ніхто імі не цікавіцца.

Адна з удзельніц майстар-класаў, настаўніца-пенсіянерка спадарыня Аліцыя Трызна ў сваім дзяцінстве ўжо не бачыла выцінанак на акне роднай хаты. Затое можна было іх знайсці на паліцах колішніх посудных шаф.

— Тады была такая мода, — кажа яна, — што з крэдэнсаў усё вымалі, паліцы высцілалі белай паперай з выразанымі ўзорамі, якая прыгожа звісала, красуючыся за шклянымі дзверцамі. Гэта было вельмі эфектнае.

Надзвычай эфектнымі выявіліся таксама работы некаторых дэбютантак папяровага мастацтва. Сваіх сіл, пры падтрымцы мамы, прабавала таксама Юлія, вучаніца пачатковай школы ў Бабіках. Ёсць надзея, што дзякуючы такім сустрэчам захаваецца прынамсі след колішняга культурнага аблічча нашага рэгіёна.

# Адкрыццё акадэмічнага года ў Седльцах

У Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце ў Седльцах 2 кастрычніка адбылося ўрачыстае адкрыццё акадэмічнага года. Сярод гасцей прысутнічалі Аляксей Зелянко — сакратар пасольства Рэспублікі Беларусь, Ганна Навакоўская — генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Брэсце, Ганна Сендзер — прарэктар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна і прадстаўнік архіепіскапа Авеля — а. Славамір Кохан.

Уступаючая на пасаду новаабраная рэктар праф. Тамара Захарук падкрэсліла, што ПГУ з'яўляецца лідарам у галіне адукацыі ў рэгіёне паўднёвага Падляшша. Ва ўніверсітэце вучыцца 9 500 студэнтаў на 21 спецыяльнасці. Вядуцца шматлікія даследаванні і ажыццяўляецца шырокае міжнароднае супрацоўніцтва. Універсітэт падпісаў дамовы з 33 замежнымі ўніверсітэтамі, у тым ліку з 4 у Беларусі. Рэктар Захарук запэўніла, што будзе імкнуцца, каб універсітэт утрымаў і ўмацаваў свае пазіцыі ў параўнанні з іншымі навучальнымі ўстановамі ў краіне і стаў больш прывабным для маладых людзей, якія свае надзеі атрымаць добрую адукацыю звязваюць з ПГУ ў Седльцах. Важным чыннікам гэтага працэсу будзе значнае паляпшэнне ў бягучым акадэмічным годзе дыдактычнай і тэхнічнай базы ды інфраструктуры ва ўніверсітэце, што, несумненна, аблегчыць дасягненне жаданых мэт.

Сярод студэнтаў ёсць людзі не толькі з сядлецкага рэгіёна, але і з іншых частак краіны. Сакратар Студэнцкага парламента ПГУ Юстына Якацкая, родам з Падляшскага ваяводства, будучая дыетолаг заявіла, што паступіць ва ўніверсіт заахвоціла яе не толькі прывабная адукацыйная прапанова, але і размяшчэнне ўніверсітэта ў горадзе, дзе студэнты ўніверсітэта складаюць больш за 10% насельніцтва, і дзе ўсюды блізка. У сядлецкім універсітэце вучыцца 59 грамадзян Беларусі, у тым ліку 30 на першым курсе. Для Арцёма Карачуна з Баранавіч Брэсцкай вобласці вялікім козырам было размяшчэнне ПГУ блізка дому, нягледзячы на тое, што ўніверсітэт знаходзіцца за мяжой. Ён сказаў, што паступленне на спецыяльнасць „кіраванне" было добрым выбарам. Заклікаў ён сваіх калег выбіраць адукацыю ў Седльцах.

**Адам БОБРЫК**

# Падпісчыкі „Нівы"

13 ліпеня г.г. я спытаў пра падпісчыкаў на „Ніву" на пошце ў Нараўцы (Гайнаўскі павет). Працаўніцы мне сказалі, што не маюць права на тое, каб інфармаваць пра падпісчыкаў, бо можа хто з іх не хоча, каб пра яго ведалі. Яны, у тым ліку і начальнік пошты, спасылаліся на закон аб ахове персанальных даных.

Няўжо было б гэта парушэнне закону аб ахове персанальных даных? У главе 3а, артыкул 2 згаданага закону напісана, што гэты закон не прымяняецца да журналісцкай дзейнасці (у адпаведнасці з законам аб друку) і да літаратурнай ды мастацкай дзейнасці пры ўмове, „што свабода выказвання сваіх поглядаў і распаўсюджванне інфармацыі значна не парушае правоў і свабоды асобы, якой яна тычыцца".

І дзе ж тут было б „парушэнне закону аб ахове персанальных даных", пані начальнік?

**Ян ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Цешыцца беларускай мовай!

*Інтэрв'ю з Алінай Ваўранюк, аўтаркай „Лемантара" — новага падручніка для другога класа ПШ, настаўніцай беларускай мовы ў беластоцкай „чацвёрцы".*



Фота Ганны Кандрацюк

„Зорка": — *Чаму „Лемантар", а не „Буквар"?*

**Аліна Ваўранюк:** — Каб адрозніваццa! Буквар мне заўсёды асацыюецца з выданнем у Беларусі. Я дайшла да вываду, што *лемантар* гэта вельмі прыгожае беларускае слова. У нас ужо былі „лемантары", таксама беларусы Амерыкі карысталіся „лемантаром". Так што тут вяртаемся да назваў, якія ўжо былі раней.

З.: — *Колькі часу трывала праца над кніжкай?*

**А. В.:** — Намнога больш чым дваццаць гадоў, бо столькі ўжо працую ў школе. Вершы і гульні, якія апынуліся ў кніжцы, я рыхтавала для дзяцей з беластоцкай „чацвёркі": Магды Карчэўскай, Наталлі Швед, Маі Бельмін, Элі Юшчук, Караля Заборскага, Міхася Каліны. Ад іх усё пачалося. Думаю, што трэба крыху папрацаваць у школе, каб упэўніцца ў патрэбе такой кніжкі. Каб ведаць, што дзеці ўспрымаюць і любяць.

З.: — *Ваш падручнік у многім напамінае „Літарынку"?*

**А. В.:** — „Літарынка" гэта падручнік маёй мамы (Раісы Бурылы - рэд.), гэта адзін з найлепшых падручнікаў па беларускай мове. Ён вельмі падабаўся дзецям і мне таксама. Важна, каб кніжкі для класаў I-III рабілі настаўнікі, якія вядуць пачатковае навучанне. Важна, каб дзеці мелі вялікі шрыфт, як у падручніках па польскай мове. Каб быў фармат А-4; як у падручніках па іншых прадметах. Гэта дае такую празрыстаць адпаведную да ўзросту. Падручнік павінен прыцягваць. У нашым выпадку тым больш ён павінен быць самымсамым прыгожым, бо гэта першая кніжка па беларускай мове. Адам Паўлоўскі, тэхнічны рэдактар прыдумаў сіні колер на абрамоўцы старонкі і ў гэтым вялікая прыцягальная сіла. Атмасферу кніжкі папаўняюць рысункі і малюнкі мастака Міраслава Здрайкоўскага. Яны такія нашыя, у народным духу, беларускія. І яны вельмі падабаюцца дзецям, заставляюць думаць пра мову колерамі, інспіруюць.

З.: — *Звяртаецца вялікая ўвага для пісьма ўручную? Чаму?*

**А. В.:** — Бо гэта вельмі важна! Я ведаю, што многія пішуць адно на камп'ютары. Аднак ручное пісьмо гэта асноўная справа. Калі прыгожа пішаш, стараешся, калі дбаеш пра парадак навокал, — той парадак з'яўляецца ў галаве дзіцяці. Тая прыгожасць навокал уплывае на прыгожасць усярэдзіне. Думаю, што вельмі патрэбныя кроткія вершы, якія дзеці без праблем вывучаюць на памяць, памятаюць. Гэта ўсё спрыяе агульнаму развіццю дзіцяці.

З.: — *Сапраўды, у „Лемантары" многа вершаў. Паводле якога ключа Вы іх падабралі? Шмат там нашых аўтараў.*

**А. В.:** — Гэта простыя, адпаведныя да ўзросту вершы, якія ахвотна вывучаюць дзеці. Я іх збірала на працягу гадоў сваёй працы, бачыла як іх успрымаюць. Калі пра мясцовых аўтараў, тут напрыклад цудоўны вершык Віктара Шведа пра хмаркі. А ключ такі: вершы павінны гаварыць пра літарку, якую якраз вывучаем. Напрыклад „Шарык" Хадановіча класны ў вывучэнні літаркі „ш".

З.: — *Кніжка заахвочвае яшчэ пазнаваць літаркі маляваннем, тэатральнымі гульнямі?*

**А. В.:** — Няма сэнсу загружваць дзяцей практыкаваннямі пры пазнаванні літарак, лепш пагуляць з вершамі, песнямі, малюнкамі. Проста нам трэба цешыцца гэтай мовай.

З.: — *Ці патрэбны яшчэ на ўроку дадатковы сшытак?*

**А. В.:** — Я думала так, каб не было дадатковых сшыткаў, каб абмежавацца да аднаго „Лемантара", каб гэта быў адначасова падручнік і сшытак для практыкаванняў.

З.: — *Якія першыя ўражанні ад працы з падручнікам?*

**А. В.:** — Для дзяцей ён цікавы, прыцягальны — самі бачыце. (*Дзеці малявалі „энікі-бэнікі", прыдуманыя створы, нават у час перапынку, якраз вывучалі літарку „э"*).

З.: — *На сённяшні дзень „Лемантаром" карыстаюцца адно Вашыя вучні. Калі ён будзе даступны для іншых другакласнікаў?*

**А. В.:** — Маю надзею, што з'явіцца яшчэ ў гэтым (каляндарным) годзе.

З.: — *Дзякуем за размову і зычым усяго найлепшага з нагоды Дня настаўніка.*

**А. В.:** — Дзякую.



мал. Эвэлінкі Амельяновіч з кл.IV а

## Скорагаворка

На рацэ Лука
спаймаў рака ў рукаў.

## Вершы Віктара Шведа

### Недарэчнасць

— Можа нам адкажаш Нюрка,
З чаго зробленая куртка?
— Сёння пачула я ад маткі,
Што яна зроблена з ваўняткі.

— Скажы яшчэ, якой жывёле
Заўдзячваеш, што фарсіш у школе?
Нюрка сцвярджае без агляткі:
— Заўдзячваю, вядома, матку.

### Насонны сродак

Авантура бацькі з маці:
— Нельга паказваць дзіцяці
У тэлевізары страшэнны
Тэлефільм ваенны.

— Гэта, ведаеш, Мірон,
Сынку нашаму на сон.
Як убачыць ён паскуду
Нырне ў ложак з перапуду.

# Конкурс пра восень (31)



Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які загаловак новага падручніка па беларускай мове для другога класа ПШ?**

а) Лемантар,
б) Буквар,
в) Каляровыя літаркі.

**2. Што гэта за акенца, праз якое бачым увесь свет (глядзі: беларуская прыказка)?**

а) камп'ютар,
б) смартфон,
в) кніга.

**3. Дзе ў Беластоку пройдзе завяршальны канцэрт „Бардаўскай восені"?**

а) У Драматычным тэатры,
б) У Лялечным тэатры,
в) У Оперы і філармоніі.

Адказы дасылайце да 10 лістапада 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказ на конкурс № 29: Свята грыба (а); Корчак (а); у беластоцкай „чацвёрцы" (б); у Збучы (в).

Узнагароды — **майкі з лагатыпам „Нівы"** — выйгралі **Вікторыя Барэчка, Наталля Васько, Іаанна Лукша** з Нараўкі, **Паўліна Марчук** з Гайнаўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Як мы прыбіралі свет

Фота Давіда ЯЦКЕВІЧА

Мноства рукавіц і фольгавых мяшкоў патрабавалі вучні Комплексу школ у Нараўцы, якія 4 кастрычніка 2012 г. прымалі ўдзел у XIX Акцыі „Прыбіранне свету", што праходзіла пад лозунгам „Кахаю, люблю, шаную... не смяцю".

У гэты дзень можна было спаткаць незвычайны від — групы вучняў з настаўнікамі збіралі банкі, шкляныя бутэлькі і іншае смецце, якое ляжала на іх дарозе.

Акцыя мела на мэце будаванне экалагічнай свядомасці. Цяпер мы ведаем больш і цешымся, што маглі хаця крыху дапамагчы нашай Маці-Зямлі. Мы выканалі вялікую работу!

**Наталля ВАСЬКО**, I клас Гімназіі ў Нараўцы

## Жарт

— Памятаеш, мама, ты казала, што калі я атрымаю чацвёрку, дык буду гуляць цэлы дзень?
— Памятаю, сынок. А што?
— Сёння я буду гуляць толькі паўдня.

# Музыка з кайфам

## Тузін. Немаўля.



Тры гады музычны журналіст Сяргей Будкін, вядомы як сузаснавальнік партала «Тузін Гітоў», хадзіў з думкай, каб пачаць прапагандаваць каштоўнасці даваеннага беларускага кіно. Вядома, не толькі думаў аб гэтым, але таксама шукаў крыніц ведаў, шукаў партнёраў і зразумела «выхадзіў» самыя фільмы. Ідэя, якая вызначала яму мэты, гэта агучыць нанава старыя нямыя фільмы.

Агучванне кіно гэта няпростая штука. Асабліва, калі ты не кампазітар па прафесіі, ці прафесійны музыка. З другога боку ў гэтай дзялянцы вельмі важныя эмоцыі, адчуванне карціны, пачуцці герояў, умеласць будаваць настрой. Гэта ўсё вельмі дапамагае пасля гледачу. Мастацтва тут заключаецца ў тым, каб музыка працавала ў карысць карціны і перад такім выклікам сталі беларускія музыкі: «Ilo&friends», Сяргей Пукст і «Re1ikt». З гэтага таварыства Сяргей Пукст, хаця авангардны артыст, мае мастацкую адукацыю, іншыя гэта перш за ўсё пасіянаты, якім важна, каб музыка перадавала эмоцыі, падказваючы спосаб камунікацыі са светам. Таму, што ў галіне агучкі гэтыя выканаўцы — першакласнікі і таму, што праект займаецца фільмамі з пачаткаў кінематаграфіі, яму далі назву «Тузін. Немаўля». Тузін, зразумела, таму што «Тузін Гітоў» гэта культурны медыум, без якога беларусы яшчэ пэўна пару гадоў не мелі б шанцу пазнаёміцца з фільмавымі здабыткамі даваенных часоў.

У рамках «Тузін. Немаўля» ў першую чаргу ўзнікае гукавая стужка для трох фільмаў. Гэта «Прастытутка» з 1926 г., «Кастусь Каліноўскі» з 1927 г., «У агні народжаная» з 1929 г. Тры фільмы з рознай тэматыкай і з розным поспехам сярод тагачаснай публікі. Кожны затое вельмі цікавы і пад розным ухілам прадстаўляе праблемы беларускага і савецкага грамадства ўвогуле. «Беларускасць» карцін гэта пытанне прадукцыі, бо фільмы ўзніклі ва ўстанове «Белдзяржкіно», хаця здымаліся ў зусім розных месцах.

«Тузін. Немаўля» гэта праект, які безумоўна адкрывае таямніцы беларускага кіно ды дазваляе эксперыментаваць альтэрнатыўным сучасным творцам. Глядзіце.

Прэм'ера праекта: Беласток, 19-20 кастрычніка 2012 г., Падляшская опера і філармонія — Еўрапейскі цэнтр мастацтва ў Беластоку; другая прэм'ера: Менск, 22, 25 лістапада 2012 г., клуб «Лофт Cafe».

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 43

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 38:

Густ, бона, бялізна, шар, яр, народзіны, фазан, як, анатом, акіян. Грыб, гід, сі, шафа, баран, пол, дата, ні, знак, таз, мі, няня, шарык.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Алек Чарнецкі** з Нараўкі, **Рафал Вакулюк** з Гайнаўкі, **Міхась Бабік** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Komi-niarz | | | | | | Tort / Most | |
| Piękno | | | Pragnienie | | Może / Brudas | | |
| Mucho-mor | | | | | | | |
| Jan / Jad | | | Gust | | | | |
| | | Żart | | | | | Bierz |
| | | Do | | Żuk | | | |
| Reklama | | | | | | | |

# Вершы

Віктара ШВЕДА

## Знікае мой народ

*На мове чужой*
*гаворыць родны народ.*
*Чужыя народы*
*гавораць на родных мовах.*

**Таццяна Сапач**

*Народ пагарджаны мой*
*Гаворыць на мове чужой.*
*Рэчаіснасць сёння такая –*
*Роднай мовы нас пазбаўляюць.*

*А ўжо ў сярэдневякоўі*
*Была беларуская мова.*
*Карыстаўся ёю няспынна*
*Славуты Францішак Скарына.*

*Без мовы сваёй заўсёды*
*Знікаюць, вядома, народы.*
*Знікае таксама штогод*
*Наш беларускі народ.*

*Гаворыць народ твой, Шведзе,*
*На мове сваіх суседзяў.*
*Суседзі абавязкова*
*Гавораць на родных мовах.*

## Няма на здымку кагосьці

**Яну Чыквіну**

*Як добра, што семінары*
*Вядомай ужо „Белавежы"*
*Канчаюцца нашай марай –*
*Агульным здымкам свежым.*

*У „Тэрмапілах" потым,*
*Сярод мастацкіх твораў,*
*Выступяць нашы фоты,*
*Таксама частка гісторыі.*

*Заўсёды здарыцца штосьці...*
*Хутка плыве год за годам.*
*Няма на здымку кагосьці,*
*Часам ужо назаўсёды.*

## Ляўкоўскія „Цаглінкі"

*Ляўкоўскі хор „Цаглінкі"*
*на XV Агульнапольскім*
*аглядзе „ARS-2012" у Быдгашчы*
*атрымаў Гран-пры.*

*Харавыя калектывы,*
*Якіх многа на Падляшшы,*
*Апрацоўваюць рупліва*
*Парыўныя песні нашы.*

*Узбагачаюць нашу мову*
*У чароўных родных песнях,*
*Услаўляюць люд вясковы*
*Дабрадушны, шчыры, чэсны.*

*На аглядах, фестывалях*
*Цешаць публіку заўсёды.*
*Слухаюць іх людзі, хваляць,*
*Прызначаюць ўзнагароды.*

*Вось ляўкоўскія „Цаглінкі",*
*Галасістыя сяброўкі:*
*Выступайце безупынку,*
*Здабывайце Гран-пры зноўку!*

■ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Размаўляйце на мове сваіх бацькоў



Доктар Васіль Сегень у час спаткання запрэзентаваў «Слоўнік бельска-падляшскай гаворкі» Міколы Врублеўскага — прыклад моўнага багацця нашых гаворак

«Говоры по-своёму, хучэй будэ», — такія словы можна было пачуць ад старэйшых асоб у час майго дзяцінства, калі нехта, ведаючы сваю мову, пачынаў размаўляць па-польску. Пасля такія словы паўтаралі беларускія студэнты ў Беластоку і Варшаве, можна іх пачуць таксама і цяпер.

Аднак многія маладыя асобы ўжо не ў змозе здзейсніць гэтую просьбу, бо не ўмеюць гаварыць на мове сваіх бацькоў і дзядоў. Каб прыблізіць гэтыя праблемы, з дакладам «Мова маіх бацькоў. Гаворкі Падляшша» 24 верасня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы выступіў доктар Васіль Сегень, супрацоўнік Кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. На сустрэчу, арганізаваную музейным бібліятэкарам Анджалінай Масальскай, прыйшлі гайнаўскія белліцэісты са сваім настаўнікам беларускай мовы Янам Карчэўскім і гімназісты са школы ў Дубінах з настаўніцай беларускай мовы Нінай Куптэль. Калі дакладчык Васіль Сегень спытаў сабраную моладзь, ці ведае родную мову сваіх бацькоў, у музейнай зале была цішыня. Можа і таму, што тыя асобы з ліку сабраных, якія яшчэ гавораць на сваёй гаворцы, не хацелі *высоўвацца* і рашыліся прамаўчаць. Пазней вучні тлумачылі, што жывуць у Дубінах, Махнатым, Арэшкаве, Рэпісках і іншых прыгайнаўскіх мясцовасцях. Хаця ў музей найболып прыйшло жыхароў Гайнаўкі, іх бацькі наогул выводзяцца з навакольных сёлаў.

— Яшчэ частка нашых белліцэістаў умее гаварыць на дыялекце беларускай мовы або прынамсі настолькі яе ведае, што карыстаецца ёю ў час паасобных выказванняў, жартаў, — сказаў настаўнік Ян Карчэўскі. — Тыя белліцэісты і гімназісты, што яшчэ ўмеюць гаварыць па-свойму, гэта перш за ўсё вясковыя хлопцы і дзяўчаты, хаця з гэтым бывае па-рознаму.

— Майго пляменніка дома вучылі гаварыць толькі па-польску і цяпер ён сам рашыўся навучыцца гаварыць на дыялекце нашай мовы. На яго рашэнне вучыцца сваёй мове паўплываў рост яго нацыянальнай свядомасці, між іншым, дзякуючы вучобе ў Гайнаўскім белліцэі, — гаварыў Васіль Сегень — ураджэнец Трывежы, які вучыўся ў белліцэі ў Гайнаўцы, а зараз жыве ў Беластоку і ад 15 гадоў займаецца моўнымі пытаннямі.

— Часта гаворыцца ў нас, што мы гаворым «па-свойму» або «па-нашаму», а на поўначы Беласточчыны — што размаўляем «па-простаму». Такія назвы беларускіх гаворак выніклі ў мінулым з нізкай нацыянальнай свядомасці беларусаў. Дыялекты з-пад Саколкі, Крынак, Дубровы-Беластоцкай, Белавежы ці Нараўкі гэта тыпічныя гаворкі беларускай мовы. Дыялекты Бельшчыны ці Гайнаўшчыны гэта ўжо пераходныя гаворкі, з прыкметамі ўзятымі з беларускай і ўкраінскай моў, што характэрнае для памежных тэрыторый, — расказваў доктар Сегень. — Хаця прафесар Міхал Саевіч, супрацоўнік Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай, правёў мяжу паміж беларускімі і ўкраінскімі дыялектамі, я стаўлю пытанне ці ўвогуле можна вызначыць нейкую мяжу паміж двума дыялектамі? Мой пункт гледжання іншы і я нязгодны з меркаваннямі прафесара Саевіча, бо, напрыклад, два кіламетры ад маёй роднай вёскі Трывежы, дзе гаворыцца са спалучэннямі «ді», «ті», знаходзіцца сяло Катоўка, дзе, так як і ў Дубінах, выступае ўжо цеканне і дзеканне. Тут знаходзіцца пераходныя дыялекты.

Дакладчык у час спаткання коратка ахарактарызаваў нашыя дыялекты і гаварыў, што ў мінулым можна было заўважыць экспансію дзекання і цекання на нашых тэрыторыях за кошт спалучэнняў «ді», «ті» і гэты працэс прадаўжаўся б пад уздзеяннем польскай мовы, якой характэрныя якраз «дзь» і «ць», калі б не паланізавалася наймалодшае вясковае пакаленне. У такім выпадку нашая дыялектная мова можа ў будучыні занікаць нават у сёлах.

— Важна паставіць пытанне: хто я па нацыянальнасці? Дыялектная мова будзе адным з фактараў, які можа дапамагчы вырашыць нацыянальнае патанне. Але з гэтым было і ёсць па-рознаму. Напрыклад, у студэнцкія гады было ў мяне двух сяброў, якія прыехалі вучыцца ў Беласток з тэрыторый, дзе дамінуючай была беларуская дыялектная мова, вельмі падобная на літаратурную. Адзін з іх быў каталік, а другі — праваслаўны, але абодва лічылі сябе палякамі, бо жывуць у Польшчы. Блыталі яны грамадзянства з нацыянальнасцю (што робяць таксама цяпер некаторыя вучні і нават дарослыя беларусы — А. М.), — гаварыў доктар Васіль Сегень, які, як пазней заявіў, заўсёды лічыў сябе беларусам. У мінулым амаль усе вучні, што хадзілі на заняткі па беларускай мове ў падставовых школах, лічылі сябе беларусамі. Зараз з нацыянальным пытаннем сярод вучняў бывае па-рознаму. Частка з іх лічыць сябе палякамі з-за таго, што жыве ў Польшчы.

— Размаўляйце на мове сваіх бацькоў і не цурайцеся сваіго. Памылковае думанне, што нашая мова непрыдатная. Веданне кожнай новай мовы гэта таксама знаёмства з культурай і душой народа, — заклікаў вучняў доктар Васіль Сегень.

Госць запрэзентаваў у час спаткання «Слоўнік бельска-падляшскай гаворкі» Міколы Врублеўскага, які сведчыць аб моўным багацці нашых гаворак. Дадаў, што да таго моманту, як паступіў у нулявы клас падставовай школы, не ўмеў размаўляць на польскай мове, а толькі пасля добра навучыўся гаварыць па-польску. Настаўніцай беларускай мовы Васіля Сегеня ў Падставовай школе ў Новым Корніне была прысутная на спатканні Ніна Куптэль. Бачыць яна вялікую розніцу паміж тым, як вучні цяпер ставяцца да роднай мовы ў падставовай школе і гімназіі, а перыядам, калі яе вучнем быў Васіль Сегень.

— Калі я быў вучнем Падставовай школы ў Новым Корніне, у нас усе хадзілі на ўрокі беларускай мовы і ніхто нават не думаў, што можа быць інакш, — сказаў доктар Васіль Сегень, — а цяпер справы наогул маюцца інакш.

— Зараз у нас складана ўгаварыць бацькоў, каб пасылалі дзетак на ўрокі беларускай мовы ў падставовай школе і гімназіі. Бывае, што бацькі хочуць, каб іх дзіця хадзіла на заняткі па беларускай мове, але трымаюць бок свайго дзіцяці, якому проста не хочацца хадзіць на заняткі. Для поспеху ў гэтай справе патрэбныя супольныя дзеянні дырэкцыі і ўсіх настаўнікаў. Я запрашаю на спатканні з бацькамі вядомых у беларускім асяроддзі людзей, бо гэта можа дапамагчы пераканаць як найбольш родзічаў пасылаць сваіх дзетак на ўрокі беларускай мовы, — гаварыла Ніна Куптэль, настаўніца школы ў Дубінах. — Заняткі па беларускай мове павінны быць як мага найбольш прывабнымі для вучняў і дзеля гэтага трэба карыстацца як мага найбольшай колькасцю дапаможнікаў, асабліва ў час заняткаў з наймалодшымі. Я апошнім часам прывезла з Беларусі з курсаў для настаўнікаў цікавыя дапаможнікі для наймалодшых вучняў — гульні, якія вучаць, так як на іншых прадметах.

Калі дзіця ўмее гаварыць на дыялекце беларускай мовы, гэта дапамагае яму вывучыць у школе беларускую літаратурную мову, аб чым пераканаліся настаўнікі-беларусісты. Спачатку дзіця ўстаўляе дыялектныя словы ў час выказвання на літаратурнай беларускай мове, а калі ўжо лепш навучыцца гаварыць па-беларуску, стараецца пазбегнуць дыялектных слоў у час размовы на літаратурнай мове.

— Пытанне даследавання беларускіх гаворак у нашых сёлах — вельмі важная справа. Раней вяліся даследчыцкія працы, быў створаны шматтомны «Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны». Апошнім часам гэтыя работы практычна спыніліся, хаця недаследаванымі астаюцца многія мясцовасці. Тэхнізацыя вышэйшай адукацыі настолькі вялікая, што гуманітарныя спецыяльнасці астаюцца з заду, усё ідзе на прагматыку. Моўныя пытанні застаюцца як бы для аматараў, для тых, хто вельмі зацікаўлены гэтымі справамі, каб пашыраць свае веды. Я шкадую, што не запісаваў цікавых расказаў сваіх дзядоў. Калі я быў маладым хлопцам, не разумеў патрэбнасці такіх дзеянняў. Цяпер прапаную маладым людзям і іншым ахвотным запісваць размовы са старэйшымі людзьмі, каб хаця ў гукавых запісах захаваць адметнасці гаворак паасобных вёсак, якія пасля можна было б выкарыстаць у моўных даследаваннях, — гаварыў доктар Васіль Сегень, заклікаючы вучняў шанаваць родную мову. — Не цурайцеся сваёй мовы, якая не горшая ад іншых.

Трымацца мовы прадкаў заклікала таксама арганізатар спаткання Анджаліна Масальская.

# Нашы фіна-вугорскія продкі. Запіскі на палях кніжкі Івана Ласкова

Алег ЛАТЫШОНАК

**Нарэшце дацягнуліся мае рукі да выдадзенай летась кніжкі Івана Ласкова „Летапісная Літва. Сваяцтва і лёс”[1]. Ніколі не забуду ўражання ад артыкула Ласкова „Племя пяці родаў”, надрукаванага ў „Літаратуры і мастацтве” ў 1989 годзе. Аўтар артыкула даказваў, што летапісная Літва была племем не балцкім, а фіна-вугорскім, а канкрэтна — пермскім.**




Я начаваў якраз у Вільні ў літоўскіх сяброў, якія з навукай нічога супольнага не маюць. У іх быў толькі аўтамабільны атлас СССР. Вось гэты атлас я гартаў да світання, чытаючы перш за ўсё гідронімы і іншыя ўласныя назвы Комі-Пярмяцкай АССР, але таксама цэлай расійскай Поўначы і Паволжа. Я быў у шоку, бо фіна-вугорская гідранімія аказалася амаль ідэнтычнай з агульнабеларускай і нашай падляшскай. Вось Нарва — на мове комі — *сонная рака*, а вось па-мардоўску — *лугавая рака*. А мая Супрасль, як я пасля ўстанавіў, па-мардоўску — *рака з вярхоўямі затканымі імглою*. Хто жыве над Супраслю, той ведае, наколькі дакладнае гэтае апісанне.

Што тычыцца фіна-вугорскасці летапіснай Літвы, дык Ласкоў мяне не пераканаў, але калі ідзе пра айчынную гідранімію, з гэтай пары я не сумняваўся, што яна менавіта фіна-вугорская.

На жаль, канцэпцыя Ласкова не знайшла шмат прыхільнікаў, ды па дзвюх прычынах. Па-першае, тады ўсе былі ў захапленні ад Вялікага Княства Літоўскага, што выклікала і агульную балтаманію. Па-другое, правінцыйны кансерватызм беларускай навукі настолькі прыгнятальны, што нішто прыдуманае не ў Маскве ці іншай чужацкай сталіцы ёю не ўспрымаецца. Ласкоў, беларус, паэт і публіцыст з далёкага Якуцка, абвешчаны быў не прафесіяналам і такім чынам „прафесіяналы” з навуковымі званнямі маглі спаць спакойна. Толькі часам маладыя і яшчэ не папсаваныя акадэмічнай кар'ерай навукоўцы браліся тлумачыць беларускія гідронімы праз фіна-вугорскія мовы.

Іван Ласкоў усё-такі не здаваўся і ў 1993 г. закончыў працу над кніжкай, у якой шырэй абгрунтаваў сваю тэорыю. На жаль, памёр праз год, а кніжка чакала выдання амаль дваццаць гадоў. Таму вялікі дзякуй Анатолю Тарасу, што парупіўся аб тым, каб праца жыцця ўжо амаль забытага аўтара дайшла да чытача.

Кніжка змяшчае ўступ Яўгена Лецкі, прысвечаны Івану Ласкову, аўтарскі ўступ, згаданы артыкул „Племя пяці родаў”, раздзел „Яблык разладу”, у якім Ласкоў тлумачыць фіна-вугорскае паходжанне імёнаў уладароў ВКЛ, тры раздзелы прысвечаныя даказванню, што пярмяцкая літва і балцкая жамойць жылі калісь далёка на поўдзень, у басейне Дуная. У шостым раздзеле, вобразна азагалоўленым „Балцкая «коўдра»”, Ласкоў паказвае, як без аніякіх падстаў ва ўяўленні навукоўцаў штораз шырэй распасціраўся арэал нібыта балцкай гідраніміі. Разгромным можна назваць раздзел „Падмаскоўная літва”, у якім паказвае ненавуковасць сцвярджэнняў паўсюдна прызнаных аўтарытэтаў, Алега Трубачова і Уладзіміра Тапарова, адносна балцкага паходжання племя голядзь і тамашняй гідраніміі.

У кніжцы таксама шмат ілюстрацый, якія паказваюць падабенства матэрыяльнай культуры беларусаў і фіна-вугорскіх народаў.

Сам Ласкоў сапраўды далёкі ад прафесіяналізму. Яго тэорыю перакачавання жамойтаў і літвы з-над Дуная ў X стагоддзі лічу проста несур'ёзнай. Пры тым Ласкоў пісаў дваццаць гадоў таму, калі г.зв. балты лічыліся індаеўрапейскім народам. Тым часам нячуваны прагрэс зрабіла генетыка і стала ясным, што ўсе сённяшнія літоўцы і латышы (а таксама прусы і яцвягі) — гэта ў вялікай ступені індаеўрапеізаваныя фіна-вугры. Інакш гаворачы, яны гавораць на індаеўрапейскіх мовах, але па крыві яны таксама і фіна-вугры. Дык няма дзіва, што ў іх мове захавалася шмат фіна-вугорскіх слоў. Таксама лаціна-фіна-вугорскія супадзенні тлумачацца не столькі суседствам на Дунаі, колькі вельмі даўнімі алтайска-індаеўрапейскімі паралелямі. Я ажно пакруціў галавой ад здзіўлення, калі дачытаўся недаўна, што цюркскае „орда” — *арда* і лацінскае „ordo” — *парадак* (ды нямецкае „Ordnung”!) гэта адно і тое самае слова!

Ласкоў пры тым ігнаруе агульнавядомы факт, што як індаеўрапейцы, так фіна-вугры з'явіліся ў Еўропе пазней за г.зв. стараеўрапейцаў. Іх нашчадкі знайшлі прытулак у трох свайго роду запаведніках: у Скандынавіі і паўночнай Нямеччыне (дзе з іх змешвання з індаеўрапейцамі ўзніклі германцы), на Балканах, з цэнтрам у Герцагавіне (сённяшнія харваты, такое ж паходжанне мае і кожны чацвёрты беларус) ды на востраве Сардзінія. Але калісьці гэтыя людзі насялялі ўсю Еўропу. Спробы вылучыць словы стараеўрапейскай мовы робіцца, але вынікі пакуль што вельмі цьмяныя. Хачу тут толькі падкрэсліць, што якраз стараеўрапейскае насельніцтва праўдападобна першым называла нашыя рэкі і азёры.

Такім чынам маем вельмі моцныя падставы думаць, што культурам, якія звычайна лічацца балцкімі, непасрэдна папярэднічалі культуры, якіх упэўнена можна звязваць з фіна-вугорскімі народамі. Наймалодшая з іх — культура грабеньчата-ямкавай керамікі, якая заняла паўночна-ўсходнюю Беларусь у трэцім тысячагоддзі да н.э. Усё ж такі можна думаць, што і ранейшыя культуры г.зв. „ляснога” неаліту: нарвенская, нёманская і верхнедняпроўская належаць фіна-вуграм, хаця з улікам і іншых элементаў, напрыклад, у нёманскай і нарвенскай культурах адчуваецца ўплыў культуры Эртэбёлле з заходняга басейна Балтыйскага мора.

Культурны краявід Паўночнай Еўропы рэзка памяняўся пад канец III тысячагоддзя разам з пашырэннем культуры шнуравой керамікі (інакш — баявых сякераў), якая заняла ўсю тэрыторыю ад Рэйна да Волгі. Гэтая культура з часам падзялілася на лакальныя культуры. На іх фоне ў нашым выпадку вылучаецца паўночнабеларуская культура, у якой пераважалі традыцыі „ляснога” неаліту. Толькі наступную археалагічную культуру, днепра-дзвінскую і блізкую да яе культуру штрыхаванай керамікі даследчыкі ідэнтыфікуюць як балцкія. Трэба пры тым адзначыць, што ранейшае насельніцтва пакаленнямі бытавала побач з прышэльцамі, паколькі абедзве групы жылі сваім ладам жыцця; адны займаліся ляснымі промысламі, другія — земляробствам і жывёлагадоўляй. Гэта спрыяла перайманню назваў. Часам бывала так, што захоўвалася старая назва, да якой дадавалі новую. На мой погляд, так было з Белавежай. Дык вось на мове комі „вежа” — *святы, -ая, -ое* (у фіна-вугорскіх мовах няма роду); „вежа ва” — *святая вада*. Такая і асацыяцыя белага колеру ў індаеўрапейскіх мовах. Але беларуская назва гэтай мясцовасці сапраўды мае форму Белавеж. Дык вось на мове комі „веж” значыць папершае: *зялёны, няспелы*, але таксама *светлы, залацісты*. І так, „веж госӧ воӧм” гэта *малочная спеласць*; „веж дон небеса” — *надзвычайна чыстае неба* (пра марознае неба); і, нарэшце, „веж еджыд” — *белы-белы*. Такім чынам нашая Бела-веж тлумачыцца як Белая-белая.

Як не глядзі, тысячагоддзямі нашую зямлю насялялі фіна-вугорскія народы, аб чым сведчыць як археалогія, так і беларуская гідранімія. Выхад кніжкі Ласкова стаў для мяне самога нагодай вярнуцца да разважанняў аб паходжанні Белай Русі.

На маю думку, назва „Белая Русь” пачаткова адносілася да Верхняй Русі. „Верхнюю і Ніжнюю” Русь адрознівалі ўжо самыя старажытныя рускія летапісцы, а той папярэднічаў проста „Верх”. „Верх” у шырокім значэнні гэта тэрыторыя водападзелу, вялікая геаграфічная краіна, якая абымае вярхоўі Дняпра, Дзвіны, Волгі, Акі (прыпомнім тут Вярхоўскія княствы), якіх вытокі ляжаць блізка адзін аднаго, але плывуць у іншых напрамках. Да „Верху” належалі таксама вярхоўі Бярэзіны, канкрэтна — Свіслач, над якой ляжыць Мінск. „Верх” відавочна вядомы быў яшчэ антычным географам; з ім наяўна звязаная антычная назва „Гіпербарэі”, а таксама „Рыфейскія” або „Алаўндскія” горы. У сярэднявечнай заходнаеўрапейскай геаграфічнай літаратуры пашыраная была таксама думка, што Волга, Дняпро і Дзвіна выцякаюць з аднаго возера, якое часта называлі „Белым”. У індаеўрапейскай іерархічнай сімволіцы колераў бель наагул азначае нешта найвышэйшае рангам. Але ў кельцкіх мовах слова „alp”, „alb” азначае проста нешта, што выстае па-над узровень, высокае, што аднначасова асацыюецца з белым колерам (відаць, ад снегу на вярхах гор або вапнякоў яснага колеру). Ёсць таксама думка, што слова „alp”, „alb” — дакельцкага паходжання і пасля прыняцця яго кельтамі пранікла ў грэцкую мову. Як там ні было, ад яго паходзяць назвы Альпійскіх гор, грэцкая назва Брытаніі — Альбіён, самая даўняя кельцкая назва Шатландскага каралеўства — Альбан (рымскае — Албанія), гор Альбён у Далматыі, краіны Албанія на Балканскім паўвостраве і старажытнай краіны Албанія паміж Грузіяй і Каспійскім морам. Мабыць, сярэднявечныя ўяўленні аб „Албаніі” і „альбанах” недзе на ўсходзе Еўропы таксама звязаны з „Верхам”.

Устанаўленне сувязі назвы „Белая Русь” з назвай „Верх” не вычэрпвае праблемы, паколькі сама назва „Верх” відавочна мае сваю гісторыю. Яшчэ Васіль Тацішчаў спалучыў назву гістарычнага племя крывічоў з „Вярхом”. Паводле яго Белая Русь „издревле по частям именована, яко Поле, Меря, Мурома и Крев, или Верховье, потом все оное Белая Русь имяновано”. На жаль, Тацішчаў ніяк не аргументуе сваю думку. Праўдападобна ўзнікла яна пад уплывам апісання рассялення крывічоў у „Аповесці мінулых гадоў”: „седять на верхъ Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днепра...”. Калі гэта так, дык крывічы гэта назва, якая адносіцца да жыхароў „Верху”, „вярхоўцаў”. Тацішчаў лічыў, што крывічы былі сарматы, потым славяне, і аддаваў ім толькі Смаленскае княства. Тэрмін „сарматы” ў Тацішчава амаль усёабдымны і адносіцца практычна да ўсяго неславянскага насельніцтва ўсходняй Еўропы, у тым ліку меры, мардвы, яцвягаў і печанегаў. Такім чынам слова „крев” не мусіць быць сапраўды сарматкае. Па сённяшні дзень гэтая назва захавалася ў мове латышоў, якія і цяпер расейцаў называюць „Krievi”, а беларусаў адпаведна „Baltkrievi”.

працяг ☞ 11

9 ☞ працяг

# Нашы фіна-вугорскія продкі...

Усё ж такі мае пошукі балцкага слова са значэннем „верх”, якое напамінала б „крев”, нічога не далі. Таму мэтазгодна будзе шукаць назвы „Верх” глыбей, у фінавугорскіх мовах. Іван Ласкоў паказвае на выключную блізкасць беларускай гідраніміі з комі-пярмяцкай. Дык вось у комі-пярмяцкай мове існуе слова „кыр” са значэннм *узвышша, гара*, а таксама *абрыў, круты бераг*. А „кыр йыв” гэта *вяршыня гары*, ён жа „Верх”! Заўважым, што і на славянскай мове „krivii” можа значыць *суша, бераг*. Падобнае комі-пярмяцкае слова, „креж” — *скала, абрыў*, шырока бытуе ў беларускіх і рускіх гаворках. Возьмем такое беларускае слова як „краж”, „кряг” — *горны ланцуг* і шырока пашыранае рускае „креж”, „криж”, „кряж”, якое мае шмат значэнняў, але наагул азначае *водападзел, узгорыстае узвышша, абрыў*. Напрыклад у гаворках Пскоўскай вобласці „креж” абазначае абрыў берага, „криж”, „крыж” — высокае месца з абрывістым спускам, „кряж” — высокі бераг або сухое месца, а ў Смаленскай „креж” гэта абрыў на дне возера, яма. Вышэйпрыведзеныя значэнні гавораць аб сурпацьстаўленні ў адным тэрміне паняццяў ніз-верх.

Апрача слова „кыр”, існуюць яшчэ два фіна-вугорскія эквіваленты назвы „Верх”, звязаныя з гэтай самай тэрыторыяй. Першы гэта комі-зыранскае слова „велт” — *дах*. На літаратурнай мове яно гучыць „вевт”, але дыялектнае „велт” — форма першапачатковая. Ласкоў згадаў гэтае слова, тлумачачы назвы рэк Велтава і Влтава. Тым часам ажно просіцца, каб слова „велт” аднесці да міфічных *волатаў/велетаў* (ды, магчыма, антычных *овелтаі, велты*), звязаных якраз з верхнім Падзвіннем. Далучаем тут таксама летапісную „дзяволтву” (Ласкоў і тут дае іншае тлумачэнне). На мой погляд, акрэсленне *дах* трэба тут разумець пераносна, як *дах свету*, а такім з'яўляўся для цэлай Усходняй Еўропы менавіта „Верх”.

І на канец „латв” (latv) — *верхавіна, вяршыня* на эстонскай мове. Па-эстонску вярхоўе — „ülemjooks”, а вярхоўе ракі — „joe ülemjooks”. Тым не менш у даўняй эстонскай, ці нейкай іншай фіна-вугорскай мове „латв” магло значыць і *верх*. Іван Ласкоў звярнуў на гэтае слова ўвагу, спрабуючы растлумачыць антыномію Земгале-Латгале, дзе першая краіна палатышскую *нізкая*, а назвы другой з ніякай балцкай мовы як *высокую* не вывесці. Ласкоў адносіць гэтую антыномію да прыдуманай сабою прарадзімы латгальцаў і земгальцаў над Дунаем, сцвярджаючы, што „ў дачыненні да Латвіі казаць пра верх-ніз увогуле бессэнсоўна” (с. 201). На жаль, ён не разумее, што тут ідзе не пра высокую ці нізкую мясцовасць, але пра вярхоўі і нізоўі ракі. Латгальцы жывуць уверх ракі Дзвіны ў адносінах да земгальцаў. Безумоўна, так як і на Дняпры, існавалі дзвінскія „Верх” і „Панізоўе”. Апошні тэрмін скарыстоўвае Мацей Стрыйкоўскі, апісваючы сваё падарожжа ўніз Дзвіны.

„Латв” — адно і тое, што „лотв”, „летв” або „літв”, паколькі галосныя *а, о, е* ды *і* вельмі лёгка чаргуюцца. Такім чынам „Летува” і „Літва” — гэтае самае, што „Латва” (з індаеўрапейскім канчаткам *-а*), г.зн. „Верх”. Толькі з часам балты і славяне сталі ўспрымаць канчатовае *-ва*, як зборнае. Назва „Аўкштота” можа быць перакладам фіна-вугорскага арыгіналу на балцкую мову (літ. „áukštas” — *высокі*). Але характэрна пры тым, што як народ існуе толькі „літва”, а „Аўкштота” толькі назва краіны. Не выключана тады, што назву гэтую прыдумалі жамойты і аднасілі да тэрыторыі між Жамойцю і Літвой. Падобна латышы (мусіць ужо ў наш час) стварылі назву „Аўгземэ” („Верхні край”) на абазначэнне даўняй тэрыторыі даўніх селаў паміж Земгале і Латгале. Яшчэ вышэй за апошнюю быў Крыў.

Такім чынам, назва „Белая Русь” мае вельмі глыбокія карані. Яна — завяршэнне доўгага працэсу перадавання аднаго і таго ж самага паняцця „вярхоўі рэк, верх” у розных мовах: Гіпербарэі, Велт, Лотв, Крыў, Верх, Верхняя Русь, Албанія, Alba Russia, Белая Русь. Мабыць, як волаты і крывічы, так лотва, латгальцы і літоўцы — усе яны проста „вярхоўцы”— жыхары „Верху”. І ўсе яны відавочна маюць фіна-вугорскія імёны.




Вось такая ерэтычная думка на канец прыйшла мне ў галаў пад уплывам Ласкова. Пішу ерэтычная, бо дагэтуль кананічная беларуская думка фіна-вуграмі і азіятамі лічыць расейцаў. Сапраўды, генетычна нават не кожны дзесяты беларус мае фіна-вугорскае паходжанне. Усё ж такі гэтага хапіла, каб перадаць нам старадаўнія назвы нашых рэк і азёраў. Заахвочваю шукаць кніжку Ласкова (так проста яе купіць і прачытаць немагчыма). Нягледзячы на ўсе хібы і часам нават фантастычнасць, яна вартая ўважнага чытання. Сёння, узяўшы інтэрнэту, маем магчымасць зараз жа заглядаць у слоўнікі, якія гэты пісьменнік мусіў доўга і пакутліва шукаць, і самому тлумачыць назвы сваіх мясцін. На пачатак, слоўнік мовы комі знойдзеце пад адрасам: http://www.koigorodok.ru/main/komi_russian_dictionary

[1] І. Ласкоў, *Летапісная Літва. Сваяцтва і лёс*, Выдавецтва „Наша будучыня”, Вільня 2011.

# http://bolognaby.org




Словы класіка беларускай літаратуры аб жаданні беларусаў людзьмі звацца і займець свой пачэсны пасад між народамі яшчэ доўга будуць няздзейсненай марай, дзякуючы дзеянням лукашэнкаўскай улады. І ходзіць тут не толькі аб эканамічным свавольстве, калі ў інвестараў могуць у імгненне вока адабраць укладзеныя ў мясцовую вытворчасць грошы, не аб наяўнасці палітзняволеных і адсутнасці свабод і правоў чалавека, не аб грэблівым стаўленні да беларускай мовы. Ходзіць аб месцы, дзе людзі павінны вучыцца самастойна думаць, аналізаваць, свабодна выказваць уласныя меркаванні, спрачацца, ды і ўвогуле шукаць нешта новае, нязведанае, неадкрытае папярэднікамі, хай яны будуць і з прафесарскімі званнямі. Ходзіць аб універсітэты, у якія апошнім часам у Беларусі колькасць жадаючых ісці вучыцца значна скарацілася.

Некалькі гадоў таму Беларусь распачала свой няўдалы паход у Балонскі працэс. Маўляў, мы ж у цэнтры Еўропы, мы таксама хочам людзьмі звацца. Але, як аказалася, у сучасным свеце звацца людзьмі ва ўніверсітэтах, гэта значыць мець акадэмічныя свабоды, ад чаго лукашэнкаўскіх чыноўнікаў ад навукі і адукацыі перакрыўлівае ва ўсе бакі.

Паколькі беларускі паход у Балонскі працэс быў адносна гучнай з'явай, у інтэрнэце з гэтай нагоды нават узнікла грамадская ініцыятыва, якая носіць назву „Грамадскі Балонскі камітэт”. Яна мае свой сайт і імкнеццца сачыць за ўсім, што тычыцца Беларусі і Балонскага працэсу, адпаведнасці беларускіх універсітэцкіх рэаліяў патрабаванням акадэмічных свабод, што ўсталяваліся ў цяперашняй Еўропе.

Месціцца даны сайт па адрасе **http://bolognaby.org**, мае невялікую колькасць рубрык, тры моўныя версіі (беларускую, рускую і англійскую), падзелены на тры роўныя часткі і даволі прывабны інтэрфейс. Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца ўверсе цэлага вылення.

Аб тым, дзеля чаго кантралёры стасункаў Беларусі з Балонскім працэсам стварылі даны сайт і чаго менавіта яны хочуць, ходзіць на старонцы „Пра нас”. „Мэтай камітэта з'яўляецца забеспячэнне шырокага грамадскага ўдзелу ў інтэрнацыяналізацыі і лібералізацыі беларускай вышэйшай школы. Камітэт мае намер скарыстацца зацікаўленасцю ўлад у далучэнні да Балонскага працэсу для таго, каб разам з іншымі сацыяльнымі партнёрамі вышэйшай школы заахвоціць беларускія ўлады пайсці на рэфармаванне вышэйшай адукацыі”, — пішуць непрасаналізаваныя сябры „Грамадскага Балонскага камітэта”.

Пры гэтым жа камітэтчыкі адзначаюць, што „ў планах урада няма намераў адмовіцца ад палітычнай інструменталізацыі вышэйшай адукацыі для пераследу апанентаў рэжыму. Удзел рэктараў беларускіх універсітэтаў у рэпрэсіях супраць студэнтаў і выкладчыкаў ужо прывёў да таго, што пяць кіраўнікоў беларускіх ВНУ патрапілі ў спіс асобаў, якім забаронены ўезд у ЕС”. З такой акалічнасці вельмі цяжка ўявіць сабе, якім чынам можна „заахвоціць” душыцеляў акадэмічных свабод і наймітаў палітычнага пераследу пайсці на дэмакратычнае рэфармаванне беларускай вышэйшай школы. Але, магчыма, у „Грамадскім Балонскім камітэце” ведаюць нейкі сакрэт.

Адной з важных задач, якую паставіў перад сабой „Грамадскі Балонскі камітэт” — маніторынг парушэнняў акадэмічных свабод у ВНУ Беларусі. Аб тым, як да яго далучыцца, распавядаецца на аднайменнай старонцы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

## Пінск-франт

Пінск сярод балота, нібы франт паміж галоты. Унікальны горад, паблізу сутоку трох рэк — Піны, Прыпяці і Ясельды, нібы нейкі востраў заходняга свету. Упершыню сюды трапіць мне давялося пятнаццаць гадоў таму, але тады ацаніць належна вартасці Пінска не ўдалося. Таму ехаў у горад над Пінаю бягучай восенню мэтна і з жаданнем паглядзець усё яшчэ раз і шырэй. Чаканні спраўдзіліся. А сустрэча з мясцовым жыхаром, пісьменнікам, чалавекам разнастайных цікавасцей Паўлам Ляхновічам падарыла цудоўнага суразмоўцу, які адкрыў нямала сакрэтаў мясцовасці.

Некалі ў Пінску любілі будаваць усё самае вялікае: найбольш езуіцкі калегіум, найбольшы касцёл, найбольшая сінагога. У савецкі час гэтая звычка захавалася — у горадзе паставілі самы вялікі помнік правадыру сусветнага пралетарыяту. Стаіць гэты скульптурны монстр і зараз, мясцовыя дасціпнікі выявілі пад крысом у Леніна нейкі дзіўны адростак — магчыма майстар ляпіць быў якраз у творчым запоі і забыўся прыбраць лішнюю частку матэрыялу. На гэтай жа цэнтральнай плошчы сапраўдны шэдэўр архітэктурнай думкі — калегіум езуітаў XVII стагоддзя. Пра яго будзе асобная гаворка. Побач стаяў яшчэ велічэзны касцёл св. Станіслава, але яго знішчылі вандалы-саветы ў 1953 годзе. Непадалёк калегіума па адной восевай лініі яшчэ адзін выдатны ўзор мураванага дойлідства — францішканскі кляштар. Тут зараз міжепархіяльная духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага. У гэтых мурах працавала нямала выдатных тэолагаў і іерархаў. Сярод іх — Казімір Свёнтак, адзіны каталіцкі кардынал у гісторыі Беларусі. У яго памяць названая маленькая перпендыкулярная асноўнай лініі вулічка, якая вядзе да ракі. Ідучы далей, убачым былы палац Матэуша Бутрымовіча. Кажуць, што на яго кутні камень залатую манету закладаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Зараз у будынку месціцца палац шлюбаў. Далей можна пералічыць яшчэ з дзесятак выдатных архітэктурных помнікаў багатай забудовы горада.

Упершыню Пінск згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1097 годам у славутай „Аповесці мінулых часоў”. Ад часу Тураўскага княства да Рэспублікі Беларусь шмат вады ўцякло праз раку, што дала імя гораду. Але заўсёды Пінск быў адметным цэнтрам, дзе жыло багата яркіх асоб, адбываліся гучныя падзеі.

Цікава, што Пінск з'яўляецца адным з нямногіх гарадоў кантынента, забудова якога знаходзіцца толькі на адным беразе ракі. Па другім баку Піны доўгія стагоддзі было сапраўднае балота. Зараз, пасля меліярацыйных работ, забалочанасць зменшылася, панізіўся і ровень вады ў рацэ, але будавацца па той бок воднай артэрыі няма сэнсу. За Пінай сапраўдная паляўніча-рыбалоўная зона. Праўда, зараз яе адсунулі ад горада ажно на шэсць кіламетраў.

Вядома, што Пінск значны час сваёй гісторыі быў па сутнасці палескай габрэйскай сталіцай. Мясцовыя габрэйскія навучальныя ўстановы выпусцілі ў свет нямала адукаваных прадстаўнікоў „абранага народа”. Найбольш вядомы сярод іх — першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман. На будынку колішняй гімназіі, дзе ён вучыўся, усталявана адпаведная памятная шыльда. У цэнтры шмат розных крамак, у тым ліку прыватных. Запомнілася адна з просценькай, але такой мілагучнай беларускай назвай — „Нашы боты”. Куды даводзілася заходзіць — уразіла досыць высокая, як для айчынных рэалій, культура абслугоўвання.

Пінск вылучаўся ў гісторыі, вылучаецца зараз і, будзем спадзявацца, захавае свой характар.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Свята бульбы

23 верасня над Рэпчыцкім вадаёмам адзначалася Свята бульбы. Імпрэзу пад назвай „Пячэнне бульбы” арганізаваў Гарадскі асяродак спорту і адпачынку ў Кляшчэлях, а суарганізатарам выступіла Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку. Мерапрыемства пачалося ў 14 гадзін. Публікі прыйшло няшмат. Паўплывала на гэта халоднае, ветраное надвор’е. У святкаваннях удзельнічалі старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, кіраўнік Гарадскога асяродка спорту і адпачынку ў Бельску-Падляшскім Анджэй Кшывец ды солтысы і радныя навакольных вёсак Кляшчэлеўскай гміны. Ролю вядучых выконвалі Малгажата Зубік і Дар’я Хшаноўская. Першымі на сцэну быў выкліканы дзіцячы гурт „Мікстуркі” пад кіраўніцтвам Ігара Фіты. У іх выкананні прагучалі дзве польскія песні: „Jak, gdzie, dlaczego” і „Tajemniczy strych”. Затым выступіла нарваўская група „Арт-Пронар”, якая дала пачатак беларускаму блоку. Канцэрт пачаўся песняй „Плакуча гітара”. Пасля несліся добравядомыя гіты: „Маміна сарочка”, „Белая Русь”, „Адзін раз у год” ды іншыя. У перапынках паміж песнямі публіку весяліў жартамі Янка Снарскі, душа калектыву. Выступ спадабаўся публіцы. Доўга не сціхалі працяглыя воплескі па кожным нумары. А калі прыйшоў час развітвацца, з публікі раздалося гучнае „біс”. Гурт тады выканаў яшчэ дзве песні. Пасля выступіла „Крыніца” пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка. Шыкарна запрэзентаваўся беластоцкі калектыў. Зрок публікі прыцягвалі не толькі народныя ўборы. У сэрца западалі цудоўныя мелодыі: „А гармонь іграе, іграе”, „Ой у полі крыніца”, „Хлопцы малойцы”, „Цячэ рэчка” ды іншыя. У заканчэнні прагучала песня „Развітальная”, а сардэчныя пажаданні ўдзельнікам мерапрыемства ад гурту перадала Валянціна Ласкевіч. Мастацкую частку завяршыла група „Лайланд” з Беластока. Як раней, так і зараз панесліся над вадаёмам беларускія песні: „Чараўніца”, „Палюбіла цыгана”, „Ой бяда, бяда”, „Едуць гарадскія”... Музыканты бадзёра igралі і спявалі, а публіка гуляла перад сцэнай. Пасля выстраіўся доўгі карагод. Важаком забавы была бурмістр Ірэна Негярэвіч, якая штораз уключала ў карагод новых танцораў.

Арганізатары задбалі і пра атракцыёны. Асноўным, як падказвае назва імпрэзы, было пячэнне бульбы. Над вадаёмам быў разведзены касцёр, побач якога стаяў кош бульбы. Кожны з прысутных мог укінуць у жар бульбу, затым ласавацца смакавітай гарачай прыпечкай. У ходзе мерапрыемства ўдзельнікі дэгуставалі стравы мясцовых гаспадынь: дранікі і галубцы з бульбы, гарохавы суп, марынаваныя грыбочкі і іншае. Пасля ацэнку стравам давала журы ў складзе Ян Сычэўскі, Ірэна Негярэвіч і Анджэй Кшывец. Перамаглі бульбяныя дранікі. Удзельнікам кулінарнага конкурсу былі ўручаны падарункі. У конкурсе на тэму ведаў пра бульбу ніхто з дарослых не адважыўся выступіць. Тады вядучыя папрасілі двух хлапчукоў. Удзельнікаў з’явілася два разы больш. Выступіць у конкурсных спаборніцтвах дазволена было ўсім. Паколькі кожны з удзельнікаў даваў правільныя адказы, усе атрымалі прызы.

Мастацкая частка закончылася. Праз некалькі мінут гурт „Лайланд” запрашаў да танца. А калі музыканты ад’ехалі, дырэктар ГАК Лявон Алексяюк заявіў, што забава працягваецца. Прысутныя гулялі ў рытм музыкі дыска-пола. Я на танцах не застаўся. Развітаўшыся з кампаньёнамі, падаўся на ровары дамоў.

**Уладзімір СІДАРУК**



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

*Мікалай ВАРАНЕЦКІ*

## *Асцерагайцеся!*

*Колькі крыжоў пры дарогах у Польшчы,*
*Колькі там свечак гарыць.*
*Колькі ахвяраў дарожных выпадкаў —*
*Цяжка ахвяры злічыць.*

*Ехалі хутка, дахаты спяшаліся,*
*Раптам круты паварот...*
*У момант кароткі жыццё абарвалася,*
*Машына ўпала ў адкос.*

*Некалькі тысяч забітых штогоду,*
*Некалькі тысяч калек.*
*Горад малы на той свет адпраўляецца*
*Каб не вярнуцца навек.*

*Людзі! На свет той спяшацца не варта,*
*Жывецца адзін толькі раз.*
*Асцерагайцеся, едзьце ўважліва,*
*Вам адыходзіць не час.*

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — японскую пагаворку.

1. бразільскі горад, каля якога Амазонка ўліваецца ў Атлантыку = 1 _ 2 _ 13 _ 17 _ 10 _;
2. зрушэнне касцей у суставе = 23 _ 22 _ 27 _ 26 _ 12 _;
3. распрацоўка прыладаў або прасторы з улікам зручнасці і прыгажосці = 15 _ 11 _ 16 _ 24 _ 18 _ 19 _;
4. адзінка сілы = 29 _ 28 _ 32 _ 30 _;
5. шостая літара беларускага алфавіту = 25 _;
6. прывычны спосаб дзеяння = 4 _ 5 _ 6 _ 7 _ 8 _ 9 _;
7. вы ўадзіночку = 31 _ 33 _;
8. горад у заходнім вугле Чэхіі = 34 _ 20 _ 21 _;
9. слізганне колаў, якія перасталі круціцца = 14 _ 3 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | | 19 | 20 |
| | | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | | | | | 26 |
| | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Масква, Мазураў, гранд, печ, ласось, каравай, паэтэса, брыво, туз, Стаханаў, пасаг, яблыня, максімум.

Рашэнне: **Сапраўднае ўбоства гэта нястача розуму**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# 21.10 — 27.10

**(22.03. — 20.04.)** Не страціш таго, што маеш і здабудзеш тое, што павінен мець. Пасля 23.10. паправіцца атмасфера ў фірме. У новым знаёмстве: першае ўражанне можа аказацца памылковым, а гэтага чалавека лёс паставіў на тваёй дарозе. У аўторак расклад у фінансавай сферы цалкам залежаць будзе ад хуткасці твайго мышлення і лагічнасці заўваг твайго мозга. Пятніца найлепшая для творчых людзей.

**(21.04. — 21.05.)** Рэалізуй старыя планы. Дабіваючыся важнай справы, прасвярлі дзіркі ў дзевяці фасолінах, наніжы іх на зялёную нітку і трымай як амулет дома. Перад справай перабірай фасолькі ў руках як чоткі і думай аб яе вырашэнні. Да 23.10. ты здаровенькі як рыба! 23-27.10. — час спрыяе падарожжам і вучобе. Хапай нагоды!

**(22.05. — 22.06.)** Пара апрануцца цяплей, асабліва хавай шыю. 22-26.10. наладзіш карысныя знаёмствы. Задуму, як паправіць арганізацыю на працы, прадстаў на шырэйшым форуме. Ды не выказвайся ў справах, у якіх ты не спецыяліст. Не забывайся расплаціцца з фіскусам. У аўторак тваё жыццё крыху зменіцца. У чацвер рэалізуй планы.

**(23.06. — 23.07.)** З 23.10. адчуеш сябе на неба лепш. З 26 (да 30.10.) можаш з-за абы-якой прычыны пайсці з кімсьці на нажы. Разглянься за новымі крыніцамі даходу, зайграй і ў латарэю. Здабудзеш сімпатыю Скарпіёна. Адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, але абдумай і магчымыя шляхі адступлення. Не стрымлівай сваёй уявы, не бойся самых шалёных планаў. У суботу магчымыя памылкі з-за вялікіх пачуццяў і эмоцый.

**(24.07. — 23.08.)** 23-27.10. можаш пасправацца з цесцем (свёкрам). Задбай аб ложак: старую канапу з выстаючымі пружынамі выкінь на сметніцу; не мусіш спаць на трох падушках. Адазвуцца старыя справы і сябры. Выканай усе свае абавязкі. У аўторак будзь крайне асцярожным і ўважлівым. У чацвер завяршыцца цяжкі перыяд у рабоце. У пятніцу ўвагу аддай свайму здароўю. У суботу не зачыніся ў ліфце.

**(24.08. — 23.09.)** Памяняй лад жыцця на здаравейшы. Не збірай у сабе кепскіх эмоцый. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на важнае пытанне. У панядзелак будзе лянівa і шкодна для здароўя. У аўторак не купляй мабільніка ці камп’ютара. Не адмаўляйся ад сустрэч, бо калі і не знойдзеш сваёй другой палавінкі, прыемна правядзеш час.

**(24.09. — 23.10.)** Сілы і энергіі дадасць табе Сонца (да 23.10.), пасля схочацца спакою і цішыні. Тыдзень досыць канфліктны, ды ты здольны змяніць ход падзей і пазбегнуць негатыўных сітуацый. Твае пяць хвілін яшчэ наперадзе. У выпадку прастуды лячыся неканвенцыянальна.

**(24.10. — 22.11.)** У тваім сэрцы гарачы май. З 25.10. знакаміты настрой. Шанц узабрацца па службовай лесвіцы, пастарайся. Не рэалізуй адразу ўсіх сваіх ідэй наконт узбагачэння. У панядзелак прыцягнеш увагу ўсіх. У сераду найстойліва беражы здароўе (не прастудзіся!). Пятніца — найлепшы дзень для тых, хто займаецца мастацтвам.

**(23.11. — 22.12.)** Ад зорак атрымаеш імпульс для развіцця, будзеш вучыцца, спазнаваць новыя галіны ведаў, чытаць цікавыя кнігі. Ды не дзяры носа — гэта можа не спадабацца атачэнню. Патрэбны табе будзе здаровы розум, каб адмовіцца ад вельмі прыманлівай прапановы, якая на самай справе будзе накіраванай супраць цябе афёрай ці проста абманам. У чацвер перад табою адкрыюцца новыя магчымасці.

**(23.12. — 20.01.)** Магчымае дасягненне вялікага поспеху ў розных службовых аперацыях. Капіталаўкладанні прынясуць прыбытак. Вакол цябе шмат зайздроснікаў. Карысныя знаёмствы з падарожжа трапяцца ў аўторак.

**(21.01. — 19.02.)** Сустрэчы з людзьмі, шматлікія розныя сюрпрызы. Здабудзеш прыхільнікаў тваіх спраў. З 27 (да 30.10.) сур’ёзна трактуй свае прадчуванні; розум можа памыляцца, а інтуіцыя не падвядзе. У сераду не ідзі ў адпачынак, сачы за падзеямі, каб чаго не ўпусціць.

**(20.02. — 21.03.)** 21-25.10. — вельмі ўдала ў інтарэсах, асабліва ў нерухомасцях. Праўдзі размовы пра павышэнне. Пагоршыцца імунітэт твайго арганізма, і пры нервовым жыцці праблемы са здароўем будзеш мець як у банку. У пятніцу пазнаёмішся з чалавекам, ад якога ў будучыні будзеш мець масу прыемных момантаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.iig.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# З Крынак у Войнава

— Калісь кожны год адпраўляліся мы на аўтобусе на Грабарку і Яблачын, — кажа адна з прыхаджанак праваслаўнай царквы ў Крынках. — Потым у людзей паявіліся самаходы і аўтобуса ўжо ніхто не заказваў .

Апошнім часам у Крынках назіраецца адраджэнне паломніцкіх традыцый. Мясцовыя царкоўныя дзячкі паспелі ўжо сарганізаваць супольную паездку на цуд у Тарэспаль, у скіт архімандрыта Гаўрыіла, а 6 кастрычніка 2012 г. сабраліся ў паездку на Мазуры, у Войнаўскі манастыр. Апынуліся яны там пасля больш чым чатырохгадзіннага аўтобуснага падарожжа з не выклікаючым даверу беластоцкім шафёрам. Крыху загубленых крынскіх паломнікаў прыўважыла маладая паслушніца, якая заграбала лісце на прыцаркоўнай пляцоўцы. Ветліва запрасіла ўвайсці ў манастырскія парогі. Суботні дзень у войнаўскай абіцелі здаваўся быць вельмі загружаным. Там якраз вядуцца шматлікія рамонты і пабудовы. Майстры і валанцёры з Брацтва праваслаўнай моладзі Свята-Духаўскага прыхода ў Беластоку, між іншым, мянялі царкоўную шалёўку, перакрывалі дах, аднаўлялі вокны і выручалі маладых манашак у іншых тыпова мужчынскіх работах.

Крынскія пілігрымы зразу накіраваліся ўсярэдзіну невялікай царквы, дзе з добрай усмешкай прывітала іх матушка Еўдакія. Пасля адслужэння настаяцелем Крынскага прыхода а. Пятром Харытанюком малебна паломнікаў чакала бяседа з прысутнай матушкай на тэму гісторыі войнаўскай праваслаўнай царквы. Драўляны будынак быццам з Цвярской вобласці паставіў тут у пачатку XX стагоддзя былы царскі афіцэр, пасля опцінскі манах Аляксандр Аваеў. Ён таксама пасяліў тут манашак. Пасля смерці айца Аляксандра манастыр на некалькі дзесяцігоддзяў запыніў сваё існаванне. З 1995 г. зноў дзейнічаюць тут манашкі. Сем маладых дзяўчат з Беласточчыны менавіта ў гэтым месцы рашылі несці свой жыццёвы подзвіг.

Паломнікі мелі магчымасць паглядзець увесь манастырскі комплекс з утульным і задбаным агародчыкам і садом. Завяршэннем візіту ў Войнаўскім манастыры быў скромны, але вельмі элегантны пачастунак у новай, прасторнай трапезнай. Дзякуючы фінансавай падтрымцы прыватных донараў, маскоўскія мастакі толькі што закончылі роспіс сцен згаданай залы ў спакойных адценнях зелені і бронзы. Аказалася, што крынскія пілігрымы ўдастоіліся вялікага гонару быць першымі гасцямі з моманту завяршэння мастацкіх работ. За дамашнімі пірагамі і духмянай кавай працягваліся бяседы з гасціннымі манашкамі. На гэты раз размова ішла пра штораз горшыя суадносіны паміж людзьмі і растучую духоўную ялавасць.

Войнава звязана перш за ўсё з традыцыямі стараверaў, якія побач пратэстантаў, каталікоў і жменькі праваслаўных, перасеелених у рамках акцыі „Вісла", тут пражываюць. Менавіта ў стараверскі манастыр-музей накіраваліся крынчане, развітаўшыся з дабрадушнымі матушкамі.

На жаль, у гэтым месцы ўжо не пабачыць і не пачуць даўніх традыцый і песнапенняў. Апошняя апякунка старой веры і манастыра матушка Афімія памерла ў 2006 годзе. Яе далёкія продкі, праціўнікі царкоўных рэформ патрыярха Нікана ў XVII стагоддзі, былі вымушаны пакінуць родную Расію. Каб пазбегчы строгіх імператарскіх наказанняў, ім прыйшлося шукаць прытулку ў чужых краінах. Вялікая іх колькасць трапіла на Захад, на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага. У першай палове XIX стагоддзя частка літоўскіх стараверaў завандравала ў Прусію, у складзе якой знаходзілася сённяшняе Войнава. Тут вучыліся яны ў нямецкіх школах, падпарадкоўваліся нямецкім законам, паступова пераходзячы на руска-нямецкае двухмоўе і нацыянальную прыналежнасць. Неўзабаве ў Войнаве паўстаў мужчынскі манастыр, які хутка перайшоў на праваслаўе. Ужо праваслаўныя войнаўскія манахі вярнуліся на сваю гістарычную радзіму, у Расію. У прускіх мурах запушчанай войнаўскай абіцелі сваё месца знайшлі стараверскія манашкі, якіх у пачатку XX стагоддзя налічвалася больш за сорак. У сувязі з пасляваеннымі падзеямі і новым палітычным ладам большасць войнаўскіх стараверaў, у тым ліку манашак, пераехала ў Нямеччыну. Сваю спадчыну і апошнія дні зямной вандроўкі ахоўніцы старых абрадаў рашылі аддаць у рукі мясцовай, заможнай, каталіцкай сям'і Людвікоўскіх. Ужо трэцяе пакаленне прадстаўнікоў гэтага роду годна служыць справе зберагання даверанай ім памяці. Менавіта прадстаўнік гэтага роду адкрыў дзверы манастыра-музея крынскім паломнікам. Спадар Людвікоўскі з трохгадовага ўзросту выхоўваўся пры мясцовых манашках, якіх называў сваімі бабулямі. Добра помніць доўгія царкоўныя службы, у час якіх не дазвалялася прысесці. На пачатку кожнага набажэнства бабулі спускалі ўніз вялікую жырандоль-панікадзіла, каб запаліць у ёй цэлае мноства сапраўдных васковых свечак. Сям'я Людвікоўскіх заўсёды прысутнічала ва ўсіх вялікіх царкоўных святах. Манашкі-бабулі былі таксама галоўнымі і самымі дарагімі гасцямі за святочным сталом Людвікоўскіх.

Паводле ўспамінаў сённяшняга гаспадара, манашкі заўсёды адмаўляліся ад журналісцкіх інтэрв'ю і фотарэпарцёрскіх здымкаў, але пры смерці папрасілі яго, каб паказваў і распавядаў пра гэтае месца ўсім жадаючым. Спадар Людвікоўскі сумленна стрымлівае дадзенае апошняй бабулі Афіміі слова. „Бывае, — расказвае ён, — прыязджаюць людзі зацікаўленыя купляй гэтага аб'екта. Багатыя расіяне прапанавалі нават чатыры мільёны еўра ўзамен за пасяленне ў ім праваслаўных манахаў". Зацікаўленне і пашану да старых традыцый і веры дарагіх бабуль спадар Людвікоўскі перадае свайму трынаццацігадоваму сыну з надзеяй, што следам продкаў стане ён дастойным абаронцам штораз больш адлеглай гісторыі і атмасферы гэтага месца. Пакуль шаноўны гаспадар рыхтуецца да кансерватарскіх работ, між іншым, над пяцісотгадовымі іконамі, прывезенымі заснавальнікамі манастыра з далёкай Расіі. Пад яго наглядам знаходзяцца таксама маляўніча акоеленыя возерам стараверскія могілкі, на якіх можна пакланіцца адзінай каталіцкай магіле сям'і Людвікоўскіх.

У зваротнай дарозе крынскіх пілігрымаў суправаджалі душэўныя спевы маладых войнаўскіх манашак, запісаныя на памятнай кружэлцы, падараванай ім з нагоды першай сустрэчы на далёкіх Мазурах.



На стараверскіх могілках



У новай трапезнай



ISSN 0546-1960